

Пераможцы алімпіяд→3


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714




Нараўка з агратурызмам→5


http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 28 (2983) Год LVIII Беласток, 14 ліпеня 2013 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# Еўравелапрабег, на якім знік бел-чырвона-белы сцяжок!

**Ануфры Рамановіч, перад тым як прыаздобіў свой ровар бел-чырвона-белым сцяжком, і далучыў да еўравелапрабегу, паведаміў СМІ. Раніцай 1 ліпеня г.г. нішто не прадказвала, што ў элегантнай кампаніі, якую прывіталі ўлады горада, адбудзецца гвалт над бел-чырвона-белым сцяжком. Наадварот, веласіпедыст (ён палітычны ўцякач, намеснік старшыні Савета нацыянальнага адраджэння Беларусі, зараз пражывае ў Беластоку), дзень раней гуляў з беларускай камандай на банкеце ў Суражы.**



Ануфры Рамановіч

Пасля абеду мы пачулі трывожны званок. Усхваляваны Ануфры Рамановіч паведамляў, недзе з акраін Беластока: „Сарвала з майго веласіпеда бел-чырвона-белы сцяг. Калі я стаў пратэставаць, да яе наблізіўся фацэт у куртцы з каманды „Калабок” і пачаў са злосцю рваць сцяг. Гэта я лічу актам насілля ў адносінах да мяне”...

„А хто тая жанчына, якая сарвала ваш бел-чырвона-белы сцяжок?” — дапытваліся мы.

„А, гэта, яна з брэсцкага клуба „Калабок”. Беларуска. Яе ровар быў пазначаны чырвона-зялёным сяцжкком і быў падпісаны „Ірэна”.

„А чаму „Ірэна” а не „Ірына”, яна ж з Берасця?

„А хто яе ведае, — нервова адрэзаў Рамановіч і з надзеяй у голасе дадаў: — О, едзе да нас паліцыя”.

* * *

Беластоцкая паліцыя з’явілася як на пажар, у баявітым настроі. Іх прыезд і асабліва прысутнасць журналістаў навялі мабілізацыю і крайнюю асцярожнасць у радах каманды „Калабка”. Раптам з натоўпу аб’явіўся мужчына, якія раней рабіў сваім суродзічам здымкі. І зараз галоўную ролю іграла не „Ірэна”, а менавіта — ён! Ён павучаў жанчыну, каб патрабавала адваката і перакладчыка, і каб сама нічога не гаварыла паліцыі. Спачатку паліцыя хацела арыштаваць Ірэну і фацэта ў куртцы, яны мелі намер „арыштаваць” іх веласіпеды ды ўсіх завезці на пастарунак.

„Спачатку ў іх была рашучасць і спачуванне маёй асобе, — кажа Ануфры Рамановіч, — аднак, калі яны дзесьці пазванілі, іх рашучасць знікла, яны разгубіліся”.

Тады сваю ролю вельмі ўдала сыграў фацэт у куртцы.




Ён голасна паўтараў: „Я не порвал его!”.

І стаў распавядаць, што калі бел-чырвона-белы сцяжок трапіў у яго рукі, ён выкінуў яго на вуліцу, дзе якраз рухаўся еўравелапрабег. Раптам кінуты сцяжок падхапіў нейкі ўдзельнік еўрагонкі і павёз з сабой. Усё гэта здарылася так вокамгненна і неспадзявана, што фацэт у куртцы не запамятаў як выглядаў той чалавек...

Не драмала таксама „Ірэна”. Яна на хаду знайшла пяць сведкаў, якія пачалі даказваць, што гэта сам Ануфры Рамановіч парваў сцяжок і прымяняў агрэсію ў адносінах да „Ірэны”. Ён спачатку „ее толкал, а после толкал ее велосипед”...

Збітая з панталыку беластоцкая паліцыя канчаткова разгубілася. У канцы паліцыянты параілі Ануфрыю Рамановічу звярнуцца ў Галоўную камендатуру паліцыі.

— Нам тут скандалы непатрэбны! — заявілі.

* * *

Пасля гвалту над бел-чырвона-белым сцяжком Ануфры Рамановіч з’явіўся ў нашу рэдакцыю, на ровары, каб даказаць што ён сапраўды ахвяра і што яго сапраўды абакралі. Ён быў жывым доказам здарэння, якое быццам і зусім не адбылося. На дадатак ён паказаў аголенае дрэўца ад сцяжка.

Ануфры Рамановіч, які большасць свайго жыцця працаваў у КГБ, не сумняваецца ў тым, хто пастараўся вывесці ў поле беластоцкую паліцыю. Нахабнае здарэнне, якое адбылося ў межах Польшчы і Еўрасаюза, наклікала настрой бездапаможнасці. Ануфры Рамановіч, нягледзячы, што пацярпеў урон, быў задаволены з аднаго: ён ехаў на чале велапрабегу праз цэлы Беласток пад бел-чырвона-белым сцягам. А за ім усе астатнія: расейцы, украінцы, палякі і беларусы...

Тэкст і фота Ганны КАНДРАЦЮК





# Парад-але

Парад, прысвечаны Дню Незалежнасці, прайшоў надзвычай пампезна. Гэта ў нас умеюць. Як гаворыцца, хто на што вучыўся. За апошнія два дзесяткі гадоў у Беларусі ўлада добра навучылася двум рэчам: устрайваць парады і разганяць акцыі.

Але апошні парад быў сапраўды нечым адметным. Такога ў Беларусі не было даўно. Менавіта таму і зрабіў гэты парад такі моцны інфармацыйны выбух. Праўладныя СМІ ўзахлёб яго расхвальвалі, інтэрнэтсадружнасць з такім жа імпэтам разнесла ўсё ў парашок. Як толькі яго не называлі. І парадам падчас чумы, і марнатраўствам, і бессэнсоўным выкідваннем грошай на вецер, і камедыйным канцэртам, і нават гульнёй у салдацікі. Але былі і станоўчыя меркаванні. Прагучала і такая думка, што ўсё, што робіцца пад дэвізам незалежнасці, ёсць справай добрай.

З чумой усё зразумела. Мелася на ўвазе афрыканская чума свіней. І хоць называецца яна афрыканскай, завезлі яе нібыта з Расіі. Як і ўсё негатыўнае для нас. Свінні дохнуць, свіней забіваюць, колюць, рэжуць, замарожваюць і рыхтуюцца скарыстаць у будучым, што прыводзіць да лагічнай высновы, што і афрыканская хвароба з Расіі таксама кансервуецца і захоўваецца для будучых часоў. Таму можна меркаваць, што свінні будуць дохнуць прыкладна з такой жа перыядычнасцю, як праводзяцца парады.

А вось грошай дарэмна людзі шкадуюць. Я дык ні кроплі іх не шкадую. Усё адно яны ні ў якім разе не дасталіся б тым, хто пра іх так маркоціцца. Якая розніца як улада скарыстае грошы, якія ў кожным выпадку пойдуць на ўтрыманне гэтай улады. Парад не горшы варыянт. І кволыя мускулы прадэманстравалі, і заадно пасіўную частку насельніцтва крыху прывучылі да масавых акцый.

А вось прадэманстраваць трываласць нашай незалежнасці гэты парад не змог. Усё акурат наадварот. Ён якраз і паказаў, якой кволай яна з'яўляецца. У той час, як сапраўдныя беларускія дэсантнікі, такія як Алесь Бяляцкі, сядзяць па турмах, у сталіцу Беларусі, на парад у імя незалежнасці, прыязджаюць расійскія дэсантнікі. І пераможным крокам маршыруюць па цэнтральнай вуліцы Мінска. Ганьба! Якая яшчэ краіна дазваляе сабе такое прыніжэнне?

Я служыў у савецкім дэсанце. Наша вайсковая частка размяшчалася ў тагачаснай Чэхаславакіі. І як мы траплялі на вочы мясцовых жыхароў, яны нам у твары тыкалі двума пальцамі, паднятымі ў сімвале вікторыі. Гэта абазначала, што яны не скарыліся перад савецкай акупацыяй і маюць намер перамагчы. Напачатку я не мог зразумець, чаму яны гэта паказваюць толькі дэсантнікам. А пасля мясцовыя мне патлумачылі, што менавіта дэсантнікі з'яўляюцца сімвалам акупацыі. І менавіта таму рускія прыслалі не памежнікаў, і не пяхоту, а менавіта дэсант — сімвал расійскай акупацыі на свята беларускай незалежнасці.

Ды і сам гарант канстытуцыі і незалежнасці, як і ўся яго світа, размаўлялі ў гэтае свята беларускай незалежнасці выключна на мове чужацкай, якую яшчэ раней зрабілі дзяржаўнай. Ды і само свята прызначанае на той дзень, калі савецкія акупанты занялі Мінск, павыганяўшы з яго іншых акупантаў. Тых акупантаў, з якімі ў свой час дзялілі і перадзельвалі беларускія землі, рэжучы і нашую зямельку, і людскія лёсы ды жыцці. Тых акупантаў, з якімі разам у 1939 годзе раздулі жудасную вайну супраць чалавецтва. Зрэшты, саветы вайну супраць чалавецтва ў цэлым і супраць кожнага чалавека канкрэтна раздулі яшчэ раней і самастойна. Без дадатковай дапамогі. І скончыць гэтую вайну не збіраюцца. Таму і з'яўляюцца ў Беларусі і расійскія дэсантнікі, і расійскія авіябазы, і расійская мова...

Ну, а галоўныя спецслужбы краіны, якія мусяць бараніць нашу незалежнасць і не дапускаць на беларускую зямлю ні чужацкіх авіябаз, ні іншаземных дэсантнікаў, самі размаўляюць па-чужацку ды пераследуюць патрыётаў беларускай незалежнасці. І ўсе слаўныя структуры бэсцяць бел-чырвона-белы сцяг, герб Пагоню, і ганяюць патрыётаў кожнага 25 сакавіка на вялікае свята беларускай незалежнасці — Дзень Волі.

Вось такі вось парад-але. Застаецца толькі крыкнуць: „Але гоп".

**Віктар САЗОНАЎ**

# Урок талерантнасці ад Рэмарка



Свайго часу я перачытаў усе кнігі вядомага нямецкага пісьменніка Эрыха Марыі Рэмарка (Erich Maria Remarque). Хаця творчасць Рэмарка прыпадае на 20-40-я гады XX стагоддзя, то гэты пісьменнік на добрую справу стаў папулярны пасля сваёй смерці ў 70-х гадах XX стагоддзя. Чаму Гітлер так узненавідзеў свайго родзіча, якога кнігі публічна паліў, а Рэмарка выслаў на вечную эміграцыю? Дарэчы, Гітлер Рэмарка ўважаў за французскага жыда, хаця папраўдзе Рэмарк быў немцам з французскімі каранямі. Гітлер ненавідзеў пісьменніка за сапраўднае адлюстраванне нацысцкай сістэмы, якая распальвала нянавісць немцаў не толькі да нацыянальных меншасцей, але і да саміх сябе. На фундаментах прапаганды ўзрастала таталітарная сістэма, якая прасочвала погляды кожнага грамадзяніна. У рамане „Трыумфальная арка" Рэмарк адлюстроўвае эміграцыю нямецкай інтэлігенцыі ў Францыю. Галоўны герой рамана — лекар, які працуе нелегальна, без кантракта, не мае сталага месца пражывання, цэлы час мяняе свае пашпартныя даныя. Пераломам у бедным жыцці адзінокага лекара становіцца італьянка. Трагізм іх кахання заключаецца ў хваробе жанчыны. Яна хварэе на рак, што даводзіць каханую лекара да смерці. Раман паказвае цяжкія абставіны, у якіх пражывае лірычны герой. За нямецкімі эмігрантамі, ворагамі фашысцкага рэжыму, сочаць агенты, які ловяць ворагаў фюрэра Гітлера. Галоўнага героя рамана „Трыумфальная арка" пераследуюць успаміны перажыванняў, якія лекар перанёс у Нямеччыне. Успаміны спалучаюцца з рэчаіснасцю, у якой сустракае ён свайго даўняга ката. Галоўны герой імкнецца адпомсціць.

Аднак раней Рэмарк дэбютаваў раманам „На Заходнім фронце нічога новага". Чаму Гітлер публічна загадаў спаліць гэтую кнігу? Менавіта таму, што малады Рэмарк у дэбютным рамане паказвае сваю нянавісць да вайны, чым праяўляе свае пацыфісцкія погляды. Паказвае ён Першую сусветную вайну як міжнародную трагедыю, якая забрала жыцці маладых хлопцаў. У адным палку змагаюцца не толькі маладыя немцы, але палякі, чэхі, венгры, ды мала хто вярнуўся жывым дахаты. Паказвае тугу маладых хлопцаў па бацьках, па каханых дзяўчатах, з якімі складалі планы на будучыню. У рамане „Чорны абеліск" Эрых Марыя Рэмарк паказвае сусветны эканамічны крызіс, у тым ліку і ў Нямеччыне ў 20-х гадах XX стагоддзя. На фундаментах эканамічнага крызісу да ўлады даходзіць Гітлер. Гэта ён корміць золатам ды ачароўвае абяцанкамі народ. З горкай ironіяй галоўныя героі рамана „Чорны абеліск" сцвярджаюць, што ў 20-х гадах найбольш квітнеюць дзве галіны эканамічнай дзейнасці, з якіх можна цалкам добра жыць — гэта пякарная справа ды выраб надмагілляў. Гэтым апошнім рамяством займаюцца галоўныя героі рамана. У рамане паказваецца таксама як у 20-х гадах у Нямеччыне шалела інфляцыя. Галоўнымі героямі рамана „Тры таварышы" з'яўляюцца трое сяброў. Раман паказвае іх вялікую салідарнасць. Яны цікавяцца аўтамабілямі ды чакаюць сапраўднага кахання. Расчараванне прыносяць ім 1920-я гады, калі да ўлады даходзіць Адольф Гітлер. Іншы раман Рэмарка „Цені ў раі" паказвае пасляваенную эміграцыю ў ЗША — краіну новых магчымасцей. Аднак галоўных герояў рамана Рэмарка пераследуе не самая вайна, але ваенныя ўспаміны. Героі рамана, нягледзячы на заспакаенне матэрыяльнага дабрабыту, не знаходзяць свайго ўнутранага спакою. Галоўны герой рамана, немец-антыфашыст, сябруе з двума братамі-блізнятамі, яўрэямі. Гэта сапраўдны ўрок талерантнасці.

Праз усе раманы Рэмарка перамешчваюцца людзі шматлікіх нацыянальнасцей, паколькі імкненне да шчасця не мае нацыянальнасці. Шчасце, спакой, зразуменне гэта міжнародыя аспекты, актуальныя на кожны час. Раманы Рэмарка цесна звязаны з біяграфіяй пісьменніка. Рэмарк, таксама як героі рамана „На Заходнім фронце нічога новага", ваяваў на фронце Першай сусветнай вайны і быў ранены. Пазней быў рэпрэсаваны нацысцкім рэжымам і вымушаны эміграваць у Францыю, а пасля ў ЗША. Дарэчы, паводле рамана „На Заходнім фронце нічога новага" ў 1930 годзе быў зняты фільм, які ў 1933 годзе трапіў у Нямеччыну. З гэтай пары да канца вайны кнігі Рэмарка былі на яго радзіме забаронены. Хто іх чытаў, з тым фашысты жорстка распраўляліся. Творы Рэмарка — звышчасовыя, так як імкненні народаў да свабоды ды шчасця.

**Юрка БУЙНЮК**

## Вачыма еўрапейца

# Напаказ?



Беластоцкія радныя і прэзідэнт сталіцы Падляшша Тадэвуш Трускалескі ўжо некалькі дзён раней пампезна абвясцілі „Канцэрт для талерантнасці", які пазней — у адну з апошніх нядзель — адбыўся на плошчы перад ратушшу. З пачуцця не толькі журналісцкага, але і з так званага грамадзянскага абавязку, я паехаў туды, заахвочаны рэкламнымі ролікамі на тэлебачанні і ў інтэрнэце. Прадстаўнікі мясцовых улад розных палітычных груповак у адным сказе пераконвалі з экрана, які гэта Беласток у парадку, знаны, талерантны, з багатай культурай, адкрыты для іншых і г.д. і чаму варта тут жыць і сюды прыязджаць. Перад падратушнай сцэнай сабралася невялікая аўдыторыя. Падчас канцэрта былі выпушчаны паветраныя шары ў колерах горада, якія мелі сімвалічна паказаць, які гэта Беласток талерантны. Былі гурты і танцы, і прэзідэнт Трускалескі — з кароткай прамовай. Ён заявіў, што ўлады горада і радныя па важных пытаннях могуць быць разам і па-над палітычным рознагалоссем. Сказаў ён, што ёсць рэчы важнейшыя ад палітыкі, і адной з іх з'яўляецца горад. Ён дадаў, што канцэрт гэта «гучна сказанае „не" тым, хто псуе імідж горада». Звярнуўся да жыхароў: „Нельга абыякава ставіцца да ўсялякіх, нават найменшых праяў расізму і ксенафобіі".

Прысутныя на канцэрце радныя клубаў ГП, ПіС і СЛД сказалі, што яны хочуць, каб Беласток бачыўся талерантным і бяспечным горадам. Радны Марэк Хайноўскі (і заадно кіраўнік беластоцкіх структур Грамадзянскай платформы, задумшчык канцэрта) падкрэсліў, што падляшская сталіца была мультыкультурнай на працягу стагоддзяў і — паводле яго слоў — такой мае застацца.

Арганізатарам канцэрта быў Беластоцкі асяродак культуры (установа падначаленая прэзідэнту горада). Ганаровы патранат узяў над ім камісар Арганізацыі Аб'яднаных Нацый па справах бежанцаў (UNHCR). На сцэну, аднак, не быў запрошаны ні адзін гурт, які непасрэдна прадстаўляў бы „іншых", тобок этнічныя меншасці ці бежанцаў. Канцэрт адбыўся праз некалькі гадзін пасля таго, як у гміне Пуньск у чарговы раз невядомыя знішчылі ў пяці вёсках двухмоўныя ўказальнікі (літоўскія і польскія) з назвамі мясцовасцей. На сцэне пад ратушшу гэты факт прамаўчалі. Тым не менш, пад ёй з'явілася група пратэстоўчых з антыфашысцкай арганізацыі — як яны сцвярджалі — у знак пратэсту супраць бяздзейнасці ўлады наконт здарэння на нацыянальнай глебе ў Беластоку. Яны прыйшлі з транспарантамі: „Рука руку мые", „Улада + расісты". Паліцыя, якой, як здавалася час ад часу, у форме і ў цывільным вакол было больш чым публікі канцэрта, „паклапацілася" антыфашыстамі; іх спісалі. Адзін з дэманстрантаў пасля таго як яго паліцыянты адпусцілі, заявіў журналістам: „Гэты канцэрт выключна напаказ. Улада ў Беластоку на працягу многіх гадоў нічога не робіць у справе расісцкіх нападаў".

У нейкі момант, хтосьці з групы назіраючых за дзеяннямі паліцыі ў адным з піўных агародчыкаў кінуў: „Запрасіце іх на сцэну!".

Але гэтае ні аднаму з арганізатараў „Канцэрта для талерантнасці" не прыйшло ў галаву. Але затое паліцыі прыйшло на розум заняцца таксама (выцягнуць набок і спісаць) маладымі чачэнскімі ўцекачамі, якія далучыліся да слоўнай сваркі з зачапляючымі іх — здаецца — беластачанамі. Чачэнцы прыйшлі на канцэрт прама са спектакля „Імпарт / Экспарт" у Лялечным тэатры. Гэта быў хвалюючы і з мастацкімі выназодкамі аповед самых чачэнцаў аб іх прымусовым падарожжы ў Польшчу і іх знаходжанні ў Беластоку, іх тузе, марах і спробах знайсці сябе са сваёй культурай у чужым асяроддзі, якраз беластоцкім. Для мяне гэты спектакль павінен быць прадстаўлены на падратушнай сцэне, а не выступ каманд, якія — без ацэнкі іх музыкі — маглі б зрабіць прыемным час як „нармальсам", так і скінгедам. Мне цяжка не пагадзіцца з былым карэспандэнтам „Газеты выборчай" у Мінску Цэзары Галінскім, які пасля таго як з змясціў на фейсбуку занатоўку пра знішчэнне польска-літоўскіх указальнікаў, напісаў: „Ну, напэўна камусьці прыйдзе ў галаву ідэя зрабіць канцэрт у Пуньску і будзе файна. А, можа, замалявалі ўказальнікі тыя, хто таксама хацеў бы канцэрта ў Пуньску? Можа, калі ім пайграюць, бандыты заплачуць і зменяцца да лепшага? Музыка змякчае манеры? Не. Лавіць, асуджаць, лавіць, асуджаць. Да выніку".

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# Пераможцы прадметных алімпіяд і конкурсаў

**Вучні Гайнаўскага і Бельскага белліцэяў і Гайнаўскай белгімназіі перамагаюць у прадметных алімпіядах і конкурсах. З гэтай нагоды ў школах адбываецца падвядзенне вынікаў адукацыйных спаборніцтваў. У Бельску ў падвядзенні вынікаў алімпіяды прымалі ўдзел дырэктар Андрэй Сцепанюк і настаўнікі, каб вучні адчувалі, што іх ангажаванасць і доўгую падрыхтоўку бачыць не толькі іх прадметны настаўнік. У Гайнаўцы ад некалькіх гадоў падвядзенне вынікаў удзелу вучняў у прадметных алімпіядах і конкурсах адбываецца ў канцы школьнага года. Сёлета адбылося яно 26 чэрвеня ў школьнай актавай зале. Прынялі ў ім удзел пераможцы, іх бацькі, настаўнікі і запрошаныя госці, з гайнаўскім віцэ-старастам Андрэем Скепкам.**



Дырэктар Гайнаўскага белліцэя Яўген Сачко зачытаў ліст, які атрымала з Універсітэта ў Лодзі лаўрэатка трэцяга месца алімпіяды па беларускай мове Дар'я Шыманюк (справа)

Настаўнікаў беларускай мовы асабліва цешыць, што іх вучні штогод дабіваюцца перамог у алімпіядзе і прадметным гімназічным конкурсе па беларускай мове. Пераможцы ўсіх алімпіяд і конкурсаў працуюць на добры агульны вынік школ, што мае ўплыў на зацікаўленне моладзі Гайнаўскага і Бельскага паветаў адукацыяй у белліцэях і белгімназіях. Праўда, зараз для выпускнікоў гімназічных школ адным з самых важных паказчыкаў сталі вынікі матуральных экзаменаў. Будучым ліцэістам важная ангажаванасць настаўнікаў у працу са здольнымі вучнямі, што можа адкрыць ім дзверы ў вышэйшыя навучальныя ўстановы без конкурснага адбору.

Дырэктар Гайнаўскага белліцэя Яўген Сачко ў час чэрвеньскага мерапрыемства зачытаў ліст, які атрымалі з Універсітэта ў Лодзі гайнаўскія белліцэісткі Дар'я Шыманюк і Мартына Сакалоўская — лаўрэаткі алімпіяды па беларускай мове. Запрашаюцца яны паступіць у гэты ўніверсітэт, дзе ім, лаўрэатам прадметнай алімпіяды, гарантуецца стыпендыя. Згаданым дзяўчатам запрапанаваў стыпендыю таксама Ягелонскі ўніверсітэт у Кракаве і прэзідэнт Познані, калі яны рашацца вучыцца ў гэтым горадзе. У гэтых лістах не гарантуецца паступленне па-за конкурсам, але многа вышэйшых устаноў прымаюць лаўрэатаў беларускай алімпіяды на выбраныя спецыяльнасці па-за конкурсам. Некаторыя школы прапануюць здольным студэнтам ільготы. Напрыклад, выпускніца Бельскага белліцэя, якая паступіла ў прэстыжную Акадэмію Лявона Казмінскага ў Варшаве, была поўнасцю звольнена ў першым паўгоддзі з платы за вучобу толькі таму, што яна — лаўрэатка алімпіяды па беларускай мове.

— Я люблю беларускую мову, люблю чытаць па-беларуску і таму рашылася прыняць удзел у алімпіядзе па беларускай мове. Рада, што пашанцавала стаць лаўрэатам. Сёння я асабліва ўзрушана, калі з рук дырэктара атрымала ўзнагароду, — сказала Дар'я Шыманюк, лаўрэатка трэцяга месца.

Старэйшая сястра Дар'і, Паўля Шыманюк, таксама лаўрэатка беларускай алімпіяды. Два разы прыйшлося мне размаўляць з іх мамай, якая вельмі цешылася з поспеху сваіх дачок.

— Мае дочкі і я любім беларускую мову, чытаем «Ніву» і кніжкі па-беларуску. Я рада, што дочкі перамагаюць у беларускай алімпіядзе. Сёння было асабліва прыемна глядзець, як узнагароджваецца малодшая дачка, — заявіла Надзея Шыманюк.

Настаўніца беларускай мовы Іаланта Грыгарук таксама была ўзрадавана з поспеху сваёй вучаніцы і падышла паразмаўляць з яе мамай. Спадарыня Іаланта, задно метадыст беларускай мовы, сказала, што падрыхтоўка да кожнай алімпіяды розніцца ад сябе і залежыць ад вядучых тэм. Таму за кожным разам трэба дапамагаць вучням шукаць матэрыялы, паводле якіх працуюць і рыхтуюцца да спаборніцтваў.

— Важна, што я — лаўрэатка беларускай алімпіяды — буду магла паступіць на многія спецыяльнасці па-за конкурсам. Яшчэ не ведаю, ці пакарыстаюся гэтымі прывілеямі. Прыемна, калі мой поспех дацэньваюць у вышэйшых установах і дасылаюць мне прапановы. Радуе сённяшняе мерапрыемства і ўзнагарода, — сказала белліцэістка Мартына Сакалоўская, лаўрэатка алімпіяды, якую рыхтаваў настаўнік беларускай мовы Ян Карчэўскі.

— На вялікую колькасць спецыяльнасцей могуць паступіць па-за конурсам лаўрэаты беларускай алімпіяды ў Варшаўскім універсітэце. Але я паўтараю сваім ліцэістам, што многа магчымасцей ёсць таксама ў іншых вышэйшых установах у Польшчы, — дадаў настаўнік Ян Карчэўскі.

Фіналістамі беларускай алімпіяды сталі Юліта Кур'яновіч, Агата Антасюк, Мірон Марчук, Кацярына Балтрамюк, Паўліна Бошка і Адрыян Казімірук. З ліку белгімназістаў лаўрэатамі Ваяводскага конкурсу па беларускай мове сталі Агнешка Гацута, Наталля Сямяцкая, Каміля Цэтра, Наталля Тарасюк і Агнешка Ходак, а фіналісткай стала Магда Сакалоўская. Белліцэістаў і белгімназістаў рыхтавалі настаўнікі Ян Карчэўскі, Іаланта Грыгарук і Анна Каліноўская.

— Перад ваяводскімі элімінацыямі прадметнага конкурсу па беларускай мове трэба было многа павучыцца і я хвалявалася, але варта было ўдзельнічаць у конкурсе, бо стала я лаўрэатам, — гаварыла белгімназістка Агнешка Гацута.

— Дзякуем вучням за інтэнсіўную і сістэматычную вучобу, якая патрэбная была, каб дабіцца поспехаў. Работа настаўнікаў таксама нялёгкая, бо 10 месяцаў мусяць інтэнсіўна займацца з вучнямі і многа працаваць дома. Такія мерапрыемствы як сённяшняе, калі бачым самы лепшы рэзультат працы вучняў, дадаюць настаўнікам сіл і энергіі да далейшай адукацыі моладзі, — сказаў дырэктар Яўген Сачко.

Прысутны ў час гайнаўскага мерапрыемства віцэ-стараста Андрэй Скепка павіншаваў вучняў і настаўнікаў з поспехамі ў алімпіядах і конкурсах і ўручыў настаўніцы біялогіі Аліне Пліс узнагароду старасты Гайнаўскага павета (яе вучань Ігар Яблонскі заняў 5 месца ў Польшчы ў алімпіядзе экалагічных ведаў). Узнагароду дырэктара школы атрымала Хрысціна Бялеўская (рыхтавала Міхаліну Герасімюк — фіналістку алімпіяды па рускай мове і Войцеха Лаўрыновіча — лаўрэата Ваяводскага прадметнага конкурсу па рускай мове). Частых поспехаў дабіваюцца таксама айцец Андрэй Буслоўскі (яго вучань Пётр Стэрлінгаў стаў лаўрэатам алімпіяды праваслаўных рэлігійных ведаў) і Сняжына Пліс (яе вучаніцы Соня Мосей і Шымон Ручынскі сталі лаўрэатамі Ваяводскага конкурсу па нямецкай мове).

Анна Чыжэўская, якую рыхтавала настаўніца Анна Васілюк, стала лаўрэаткай конкурсу па біялогіі, а Адрыян Казімірук, які рыхтаваўся пад наглядам настаўніка Марка Якімюка, стаў фіналістам Алімпіяды праваслаўных рэлігійных ведаў.

— Алімпіяда экалагічных ведаў гэта інтэрдысцыплінарная алімпіяда, у час якой трэба выкарыстаць веды па біялогіі, хіміі, фізіцы, але перадусім трэба карыстацца сучаснай інфармацыяй наконт тэхналагічных навацей, з ухілам на экалогію, — сказаў белліцэіст Ігар Яблонскі, пераможца экалагічнай алімпіяды.

— Да экалагічнай алімпіяды прыступіла звыш дваццаці тысяч вучняў у Польшчы. Калі Ігар заняў пятае месца ў краіне, гэта сведчыць аб яго цяжкай працы і асаблівых здольнасцях аналізавання вялікай колькасці сабраных ведаў і выкарыстоўвання самых важных з іх. Рыхтуючы вучняў да такой алімпіяды, я таксама вымушана штогод здабываць новыя крыніцы інфармацыі і новыя веды, — гаварыла настаўніца біялогіі Аліна Пліс.

Настаўніца рускай мовы Хрысціна Бялеўская сказала, што поспехаў у конкурсах і алімпіядах цяжкай працай дабіваюцца яе вучні, дзякуючы вялікім інтэлектуальным магчымасцям.

— Прымаючы ўдзел у такіх як сённяшняе мерапрыемствах вучні бачаць, што мы іх належным чынам ацэньваем. Трэба таксама падзякаваць бацькам, якія навучылі сваіх дзяцей сістэматычна працаваць і мабілізавалі іх да салідный вучобы. Аб пераможцах алімпіяд і конкурсаў можна будзе прачытаць у «Ніве». Мы апішам сённяшняе мерапрыемства на сваёй інтэрнэтнай старонцы, — заявіла віцэ-дырэктар белліцэя і белгімназіі ў Гайнаўцы Ніна Лукасік.

У час урачыстасці перад сабранымі з мастацкай часткай выступілі вучні. Яны дэкламавалі, ігралі на піяніна, гітары, акардэоне. З прыгожым спевам запрэзентаваўся вакальны калектыў «Знічка». Імпрэзу, якая закончылася пачастункам, спансаравалі Павятовае староства ў Гайнаўцы, гайнаўскія натарыусы Багдан Клімюк і Марк Васілюк ды Спажывецкі кааператыў «Сполэм» з Гайнаўкі.

У Агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай навучання імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім белліцэісты традыцыйна дабіліся поспехаў у шматлікіх алімпіядах. Найбольш вучняў прыняло ўдзел у алімпіядзе па беларускай мове, дзе лаўрэатам першага месца стала Канстанцыя Ксенія Дораш, якую да алімпіяды рыхтавала настаўніца Яўгенія Таранта, а фіналістамі сталі Малгажата Пухальская, Анна Нікіцюк, Юлія Панютыч і Павел Дамброўскі, якіх рыхтавалі Анна Бжазоўская і Яўгенія Таранта.



Лаўрэаты і фіналісты алімпіяды па беларускай мове з Гайнаўскага і Бельскага белліцэяў і III Ліцэя ў Беластоку

— У гэтым школьным годзе лаўрэатам Алімпіяды па рускай мове стала Юстына Максімюк, а фіналістам — Марк Манаховіч. Фіналістамі біялагічнай алімпіяды сталі Аляксандра Гаўрылюк і Матэвуш Базылюк, фіналістам алімпіяды праваслаўных рэлігійных ведаў стала Наталля Карпюк, а фіналістам алімпіяды «Салідарнасці» стаў Каміль Тваркоўскі, — падвёў вынікі ўдзелу бельскіх белліцэістаў у прадметных алімпіядах дырэктар белліцэя Андрэй Сцепанюк. — У мінулым наш белліцэй у рэйтынгу часопісаў «Перспектывы» і «Жэчпасполіта» заняў нават 12 месца ў Польшчы, але тады пад увагу браліся толькі поспехі ў алімпіядах. Апошнім часам побач гэтых поспехаў у рэйтынгу ацэньваюцца таксама вынікі матуральных экзаменаў і бяруцца пад увагу іншыя паказчыкі. У апошнім рэйтынгу мы занялі 7 месца ў Падляшскім ваяводстве і 46 месца ў Польшчы. Вельмі складана будзе дабіцца такіх поспехаў у будучыні, бо зараз супраць нас працуе дрэнная дэмаграфія і штораз цяжэй набраць нам вучняў у першыя класы. Калі ў лепшыя беластоцкія ліцэі ідзе самая здольная моладзь з вялікага горада, то нам складана з імі раўняцца, асабліва ў выніках матуральных экзаменаў, калі мы прымаем практычна ўсіх ахвотных вучыцца ў нашай школе. Аднак будзем старацца дабіцца большых поспехаў у алімпіядах.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

## Пытанне пра помнік

Я некалі ў сваёй конкурснай працы намякнуў пра расстрэл габрэйскага насельніцтва з усёй ваколіцы Празарокаў Глыбоцкага раёна Віцебскай вобласці пры дапамозе мясцовай „паліцыі”.

Пасля вайны я імкнуўся даведацца, ці ў месцы той магілы за савецкага часу быў пастаўлены які-небудзь помнік, або іншы знак памяці гэтага злачынства. На жаль, ніхто на маё пытанне адказу не даў... Чаму? Не ведаю...



*Помнік на месцы расстрэлу габрэяў Празарок і Зябкоў*

Сёння асмельваюся з гэтым пытаннем звярнуцца ў „Ніву”. Можа ў рэдакцыі існуюць якія-небудзь даныя, або хто з яе членаў ведае тую ваколіцу? Памятаю лозунг (і загаловак кніжкі): „Ніхто не астанецца забытым”. А мы ж імкнемся ўкараняць мараль чалавечную... (тым больш, што лічу такое пытанне сур'ёзным і, безумоўна, гістарычна важным).

**Анатоль МАЎЧУН**

**Ад рэдакцыі:** Вячаслаў Ракіцкі ў 2002 годзе на сайце Радыё Свабода так пісаў пра закранутую Вамі тэму: „Пачынаючы ад 1939 года, лёс бязлітасна біў па Празароках. Перад і пасля вайны вынішчалі беларусаў-гаспадароў. А ў снежні 1941 года гітлераўцы расстралялі тут 380 габрэяў. Людзі не могуць забыць, як габрэяў сагналі да ямы па-за вёскай, потым расстрэльвалі і скідвалі ў яму, якую загадалі закапаць мясцовым беларусам. І яшчэ колькі дзён зямля хадуном хадзіла ад закапаных жывымі. Я збочыў з шашы Празарокі — Глыбокае. Па размяклай ад дажджкоў раллі дабраўся да невялікага помнічка, які адразу пасля вайны паставілі на свае грошы габрэі, якім пашчасціла ацалець. Надпісы на помніку знявечаныя даўно, а вось брацкая магіла разрытая зусім нядаўна. Няўжо і цяпер нехта шукае габрэйскае золата?” (http://www.svaboda.org/articleprintview/24869366.html). Пазней Аркадзь Шульман у кнізе „На качелях времени” (Мінск 2009) пісаў, што ў пачатку 2000-х гадоў на месцы гібелі паставілі новы помнік. Агромны валун, да якога ланцугамі прымацавана таблічка с надпісам на рускай мове: «6 декабря 1941 года на этом месте фашисты расстреляли 420 евреев: мужчин и женщин, детей и стариков — жителей местечек Прозороки и Зябки. Светлая им память! Этого забыть нельзя!»

## Мастацтва з кроснаў

3 ліпеня гг. у Музеі ў Бельску-Падляшскім адкрылі выставу „Мастацтва з кроснаў”. Змешчаны на ёй народныя тканіны з калекцыі Падляшскага музея ў Беластоку ды народнай ткачыхі Ірэны Ігнацюк са Старога Ляўкова (Гайнаўскі павет). Адкрыццю экспазіцыі спадарожнічаў паказ ткацкага ўмельства.

Выстава будзе адкрыта для наведвальнікаў у гадзінах працы Музея. Запрашаем яе агледзець. **(яц)**

# На русальным тыдні



**Перыяд зараз пасля Пяцідзесятніцы ў беларускім народзе здавён-даўна быў запоўнены абрадамі і падзеямі, прысвечанымі русалкам. Людзі верылі, што менавіта тады душы памерлых заручаных дзяўчын танцавалі і красаваліся ў жытніх нівах, апранутыя ў белыя сукенкі і валошкавыя вянкі на доўгіх, распушчаных валасах. На вёсках навокал Крынак і Шудзялава верылі, што русалкі памагалі ў выхаванні дзяцей і апекаваліся імі, калі бацькам з-за палявых прац не хапала на гэта часу.**

У Слоі яшчэ да нядаўна сярод дзяцей існавала перакананне, што след, пакінуты слімаком на траве, гэта доказ прабывання ў гэтым месцы русалкі. Басаногіх красотак бачылі ў гэтым годзе і ў панямонскіх Крынках. Гэта здарылася якраз у суботу, 29 чэрвеня, у дзень аддання свята Пяцідзесятніцы. Праўда, большасць прысутных там русалак даўно ўжо замуж павыходзіла, а нават унукаў дачакалася, але іх вянкі надалей палаюць прыгожасцю і жыццём. Лапіцкі карагод „Сеніёрак у акцыі”, суфінансаваны Таварыствам творчых ініцыятыў „ę”, на славутай крынскай кругавой развязцы сарганізаваў вялікі „Торг крэатыўнасці”. На іх прылаўку можна было паглядзець, між іншым, вырабы рукадзелля, якія паўсталі на працягу апошняга года ў рамках жаночых бясед у аграсядзібе іх старшыні Ганны Сянкевіч. Для згаладалых назіральнікаў мерапрыемства падрыхтавалі яны некалькі луст хатняга хлеба са смальчыкам і солёным агурком. Асабліва прывабным мерапрыемства стала для дзяцей. Надзіманне вялікіх мыльных бурбалак, ход па канаце, мастацкія, рукадзельныя майстар-класы гэта толькі некаторыя з заняткаў, падрыхтаваных у гэты дзень наймалодшым.

Дарослым таксама было чым парадавацца. Па запрашэнні старшыні жаночага кружка ў Лапічах у Крынкі з'ехалі беластоцкія і ловіцкія фанаткі, між іншым, гавайскай культуры. Малодшыя і крыху старэйшыя прыгажуні, апранутыя ва ўласнаручна пашытую народную гавайскую вопратку, падрыхтавалі сабраным сапраўднае шоў. Задавальненне з пабачанага размалявалася на тварах, між іншым, крынскага бурмістра Багдана Панасюка і кіраўніка мясцовага надлясніцтва Вальдэмара Сярадзкага. Як прызналіся потым найстарэйшыя крынчанкі, „такога ў нас яшчэ не паказвалі”. Гэта было першае сутыкненне мясцовага насельніцтва з гавайскай мовай, на якой гучалі песні і кароткія дыялогі-гуканні. Некаторыя з ліку публікі з недаверам задавалі сабе пытанне ці гэтыя экзатычныя гукі сапраўды нешта абазначаюць. А і традыцыйныя, амаль тэатралізаваныя танцы ніяк не сыходзіліся з успамінамі нашых колішніх, вясковых забаваў. Гавайская кампанія стала асабліва блізкай сэрцу Галены Пухальскай з Крынак. Тут яна праяўляе свае таленты ў рукадзеллі, танцах, спеве і ігры на ўдарных, струнных і духавых інструментах. Магчыма, у Крынках таксама паўстане гурт паслядоўнікаў гэтай захапляльнай і карыснай для душы і цела ідэі. Спадарыня Пухальская закрасавалася ў гэты дзень і ў мясцовым „заранічным” варыянце. Прэм'ернае выкананне народных твораў, сабраных Міколам Гайдуком, пад акампанемент баяна, дудкі і сапраўднага беларускага бубна, карысталася асабліва цёплым прыёмам і, мабыць, упершыню ў гісторыі гэтага мястэчка выканаўцаў выклікалі на біс. Беларускія рытмы падхапілі таксама гавайскія карагодніцы. Адна з іх, Раіса Бондар, родам з непадалёкіх Баброўнікаў, прызналася, што ўсе гэтыя песні ёй добравядомыя. У іх захаваўся вобраз ёйнай сям'і і роднай вёскі. Да ўдзелу ў русальным мерапрыемстве „Зараніцу” запрасіла Альжбета Чарэмха — дырэктар мясцовага дома культуры. Гэтая ўстанова была суарганізатарам суботняга мерапрыемства, названага афіцыяльна „Прывітаннем лета”. Спадарыня Альжбета на сцэну выпусціла таксама сваіх падапечных — дзяцей з музычнага гуртка, якім кіруюць Лілія Жылінская і Інэса Кур'янава з суседняй Гародні. Польскую патрыятычную песню, як заўсёды, выканалі крынскія пенсіянеры з хору „Погодна есень”. На завяршэнне прагучалі добравядомыя ўсім шлягеры польскай папулярнай музыкі, у якіх спецыялізуюцца прыгажуні з крынскага калектыву „Экзіт”. Жаль было раставацца з чароўным светам які, нібыта выпадкова і неяк падсвядома, спалучыў у самым сэрцы Крынак найстарэйшыя беларускія звычаі і павер'і з сучаснасцю.





**Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН**

# Нараўчанская гміна пабачыла свой шанс у агратурызме

**З войтам Нараўчанскай гміны Міколам Павільчам пра мадэрнізацыю і турыстычныя атракцыёны, пра ахову духовай спадчыны гутарыць Ганна Кандрацюк.**



**Ганна Кандрацюк: — Традыцыйна ўжо, пасля «пятроўкі», у вас Купалле. У гэты раз яно запланаванае на 13 ліпеня. Якія атракцыёны Вы падрыхтавалі?**

Мікола Павільч: — Купалле, само па сабе чароўнае. Будуць, вядома, спевы і конкурс на самы прыгожы вянок, будуць феерверкі. Праз Нараўку пройдзе купальскі карагод з запаленымі паходнямі і спевам. Шэсце будзе ісці са спартовай пляцоўкі да байдарачнай базы на рэчцы Нараўцы. Той, хто прыедзе, не пашкадуе.

**ГК: — У час гутаркі з мясцовымі жыхарамі ў мяне склалася ўражанне, што Нараўка — гэта гміна, якая пабачыла свой шанс у развіцці агратурызму.**

МП: — Напэўна, гэта адна з магчымасцей зарабіць крыху грошай, хаця вядома, што з аднаго агратурызму немагчыма выжыць.

**ГК: — А колькі ў гміне пансіянатаў?**

МП: — На сённяшні дзень у нас 45 кватэр — гэта тыя зарэгістраваныя. Ёсць яшчэ такія, дзе прыязджае адпачываць сям'я гаспадароў. Пансіянаты, да пяці пакояў, звольненыя ад падатку, яны самастойныя і гміна іх не падтрымлівае ў фінансавым плане. Так што нікому гэта не перашкаджае.

**ГК: — У нашым падляшска-беларускім свеце агратурызм — новая з'ява. Скажыце, Вы многа працавалі, каб дайсці да таго моманту, які зараз у гміне?**

МП: — У гэтай галіне мы, як гміна, працуем ужо дзесяць гадоў, але тут усё залежыць ад уласнікаў кватэр — ці яны знойдуць час і сілы, каб прымаць людзей. Ці змогуць прапанаваць добрыя ўмовы для адпачынку, каб тыя кватэры былі чыстыя і гатовыя ў кожны час прыняць людзей. Трэба таксама мець грошы. Сёння адзін пакой і ложак — гэта мала. Трэба, каб была *лазенка*, каб была магчымасць карыстацца кухняй і каб былі ўсякія атракцыёны. Сам начлег і харчаванне сёння не спрацоўць. Мусова, каб была якаясь *разрыўка*, спосаб на актыўны і модны адпачынак.

**ГК: — Ці вы, як гміна, актыўна ўдзельнічаеце ў працэсе развіцця агратурызму, можа арганізуеце курсы для пачаткоўцаў?**

МП: — Калі ёсць магчымасць прамоцыі то гэта заўсёды робім. Аб'явы па кватэры знойдзеце ў цэнтральнай і лакальнай прэсе, на інтэрнэтнай старонцы. Якраз ідзе ў нас інфармацыйная кампанія, у рамках якой мы размясцілі 50 білбардаў з рэкламай гміны, дзе адным з пунктаў з'яўляюцца агракватэры.

**ГК: — Бачыла я такі білбард у сваім квартале ў Беластоку.**

МП: — Білбардную акцыю вядзем пакуль у Варшаве, Любліне і крыху ў Беластоку.

**ГК: — А ці разам з развіццём агратурызму развіваецца інфраструктура?**

МП: — Так, наколькі дазваляюць магчымасці гміны і сродкі звонку. Калі ідзе пра камунальную інфраструктуру, якая вельмі важная для кватэрадаўцаў — каб была чыстая і здаровая вада, каб спраўна працавала каналізацыя і дзейнічала перапрацоўка сцёкаў, — дык з гэтым практычна мы ўжо справіліся. Водаправоды маем пракладзены ўсюды, 70 адсоткаў жыхароў нашай гміны ўжо карыстаецца каналізацыяй, канчаем будаваць 207 прысядзібную ашчышчальню сцёкаў для жыхароў хутароў і паасобных населеных пунктаў. Маем многа недахопаў, калі ідзе пра дарогі. У найгоршым стане ваяводскія дарогі. Калі ідзе пра нашыя гмінныя дарогі, яны ў лепшым стане. Кожны год, дзякуючы добраму супрацоўніцтву з паветам, мы рамантуем некалькі кіламетраў гмінных дарог, дакладаючы палову гмінных сродкаў. На жаль, не можам прабіцца з праблемай мадэрнізацыі ваяводскай дарогі, якая, можна сказаць, з'яўляецца касцяком гміны. Калі ідзе пра турыстычна-рэкрэацыйную інфраструктуру, то маем Стары Двор, які прапануе месца для актыўнага і культурнага адпачынку. Маем Адукацыйны асяродак у Семяноўцы — там спортпляцоўкі і корты, маем памосты на возеры ў Семяноўцы і Старым Двары, маем таксама ў Нараўцы спортпляцоўку „Орлік". Калі ідзе пра начлегі, дык у Семяноўцы 48 месц, там і кухня. У Адукацыйным асяродку рэалізуюцца праграмы на тэму экалогіі, дзякуючы гэтаму можна арганізаваць у нас „зялёныя" школы. Ёсць шмат зацікаўленых гэтай прапановай — і большасць гэта людзі з іншых куткоў Польшчы чым Падляшша.

На сённяшні дзень у нас пачаўся працэс вылучэння шляхам аўкцыёна выканаўцы разбудовы байдарачнай базы ў Нараўцы. Хочам пабудаваць тры хаткі з 48 начлежнымі месцамі, якія будуць працаваць цэлы год. Маем ужо байдаркі, снежныя скутары, хочам купіць бегавыя лыжы з абуткам і такі вялікі моцны снежны скутар, якім можна вызначаць на снезе маршруты для лыжнікаў. У нас існуе ўжо сорак кіламетраў трасы для пешаходаў, якія займаюцца скандынаўскай хадзьбой, зараз мы раздалі частку палак для ўласнікаў агратурыстычных кватэр. Зімой, будуць там трасы для лыжнікаў...

**ГК: — Якая частка гэтай мадэрнай інфраструктуры паўстала дзякуючы еўрасаюзным сродкам?**

МП: — Ад 50 да 80 адсоткаў. Без іх мы не маглі б зрабіць таго, што ўжо зрабілі. Апрача сказанага, у гэтым годзе маем намер зрабіць малую інфраструктуру ва ўрочышчах Марушка і Круглік, хочам збудаваць там панарамныя аглядныя пляцоўкі для назірання за прыродай. Будуць там месцы для вогнішчаў і санітарная інфраструктура. Такія месцы для вогнішчаў (пад дашком) будуць у Новай Луцэ, Бяндзюзе, Бярнацкім Мосце, Старым Ляўкове. У Нараўцы, пры байдарачнай базе, хочам збудаваць трэнажорню пад адкрытым небам (каб той, хто займаецца спортам, мог дыхаць кіслародам), хочам купіць яшчэ два водныя ровары, каб можна было на нашым малым вадасховішчы пакатацца. Гэтыя ўсе атракцыёны будуць служыць не толькі турыстам, але, думаю, найперш нашым людзям.

**ГК: — Ужо чарговы раз у гміне мы праводзім журналісцкія майстар-класы, менавіта 27 Сустрэчы „Зоркі", прысвечаныя асобе Тамары Саланевіч. Ці Вы былі знаёмы з рэжысёркай?**

МП: — Я меў тое шчасце, што мог, як войт, некалькі разоў сустрэцца са спадарыняй Тамарай Саланевіч. Мы размаўлялі пра нашыя грамадскія справы. Гэта была асоба, якая мела свой погляд на справы і ўмела яго бараніць, хоць не была заядлай апаненткай. Дзякуючы яе фільмам, мы лепш захавалі памяць пра тоеснасць. Многа стварыла рэпартажоў пра людзей з Нараўчанскай гміны, многія з іх ужо пайшлі з жыцця. Яе рэпартажы маюць для нас архіўную вартасць.

**ГК: — Менавіта, што робіць гміна, каб памяць пра Тамару Саланевіч не прапала?**

МП: — Імя Тамары Саланевіч мы прысвоілі мясцовай гімназіі. У яе гонар названая таксама мастацкая галерэя. Аб'яднанне Нараўчанскай зямлі два разы арганізавала прэзентацыю яе фільмаў. У галерэі і гімназіі знаходзіцца архіў яе фільмаў, калі хто жадае, можа іх паглядзець.

**ГК: — Кожны, хто прыедзе ў Нараўку, бачыць таксама дом і панадворак рэжысёркі, моцна занядбаны.**

МП: — Тут мы занадта не можам зрабіць, таму што ўся маёмасць у прыватных руках. Тыя людзі хочуць прадаць дом Тамары Саланевіч. Інфармацыя аб продажы вісіць на хаце ўжо паўтара года, але купцоў пакуль няма.

**ГК: — А чаму гміна не хоча выкупіць хаты і гэтага месца, і зрабіць там, напрыклад, Цэнтр Тамары Саланевіч?**

МП: — Пакуль у нас вядуцца іншыя еўрасаюзныя праекты, якія трэба закончыць. З домам Тамары Саланевіч складаная справа. Нават, калі б мы набылі будынкі і сталі іх юрыдычным уласнікам, гэта толькі пачатак цяжкай дарогі. Трэба мець вялікія грошы, каб гэтае месца давесці на парадку, адрамантаваць, наладзіць там экспазіцыю ці майстэрні.

**ГК: — Патрэбныя яшчэ людзі, якія мелі б ідэю дзейнасці такога асяродка?**

МП: — Гэтае месца я бачу як музей памяці Тамары Саланевіч. Трэба было б сабраць усе рэчы і памяткі, якія яшчэ захаваліся ў розных месцах, па розных людзях. Хачу, каб месца служыла цэламу нашаму грамадству.

**ГК: — Дзякуем за размову, і спадзяемся што наша размова пра ўшанаванне месц звязаных з Тамарай Саланевіч будзе ажыццяўляцца рэальна..**

МП: — Было б вялікім грэхам, калі б мы забыліся пра такіх людзей як Тамара Саланевіч.

## Экскурсія ў Мінск

Восьмага чэрвеня два вакальныя калектывы з Гайнаўшчыны: „Нараўчанкі" і „Жаваранкі" паехалі на экскурсію ў сталіцу Беларусі — Мінск. Нашых спевакоў запрасіла ў госці Таварыства „Радзіма".

У нядзелю 9 чэрвеня экскурсанты знаёміліся з горадам. Едучы ў аўтобусе ўсе захапляліся прыгажосцю беларускай сталіцы. Малады экскурсавод Таццяна цікава расказвала пабеларуску аб гісторыі Мінска, помніках, старых і новых пабудовах. Мінск прыгажэе і расце. Горад чысты, многа зелені. Нам, грамадзянам Польшчы, цяжка было зразумець „касмічныя" беларускія цэны. За порцыю марожанага трэба было заплаціць аж 10 тысяч рублёў.

Пасля поўдня спевакі з Нараўкі і Махнатага спаткаліся з кіраўніцтвам Таварыства „Радзіма" і пры гарбаце размаўлялі аб праблемах культурнай дзейнасці, аб тым, каб часцей сустракацца. Потым наступіла вельмі цікавая сустрэча з вядомым беларускім ансамблем „Вербіца", які ў мінулым годзе быў на гастролях у Польшчы і, між іншым, даў канцэрт у Нараўцы.

Калектыў „Вербіца" налічвае 17 чалавек і цудоўна спявае беларускія народныя песні. Мастацкім кіраўніком „Вербіцы" з'яўляецца вельмі добры гарманіст Алесь Свірскі. Ён даў добрую ацэнку „Нараўчанкам" і „Жаваранкам", калі яны пад кіраўніцтвам Пятра Скепкі праспявалі свае песні. Бяседа пры музыцы і песнях цягнулася да самага вечара, было вельмі прыемна. Госці з Нараўкі і Махнатага запрасілі „Вербіцу" наведаць Гайнаўшчыну.

10 чэрвеня экскурсанты пакінулі Мінск і адправіліся дамоў. Усе былі задаволены паездкай, а асабліва тыя, хто першы раз наведаў Беларусь.

**Мікалай ВАРАНЕЦКІ**

## Ліпень пахне зёлкамі

Жыхары перш-наперш вёсак, але і гарадоў, зараз збіраюць лекавыя зёлкі. А іх процьма. Абы была толькі ахвота ды крыху ведаў пра лекавыя расліны і пра спосабы іх сушэння. У Нараўчанскай гміне пункты скупкі працуюць, між іншым, у Нараўцы, Плянце і ў Старым Ляўкове.

На пункт скупкі ў Старым Ляўкове ў першыя дні ліпеня збіральнікі прынеслі шмат кілаграмаў адпаведна высушанага пахучага ліпавага цвету. У Плянце вядучая пункт скупкі прыняла шмат кілаграмаў цвету стакроткі, язміну і парыла (тавулы), кары вярбы, лісця брусніцы, карэння пяцёрніка (дуброўкі) і аеру, зелля палявога хвошчу і іншых раслін. Яшчэ цяпер некаторыя прывозілі лісце бярозы (яны па 3,50 зл. за кілаграм). За кілаграм кветак стакроткі можна зарабіць 28 зл., за лісточкі амялы 7,50 зл., а сухога карэння аеру — 15 зл. Збіральнікі з Плянты, Ахрымоў і Старога Ляўкова ведаюць і зараз, у гэтым сезоне, збіраюць на берагах рэчкі Нараўкі каля Сушчага Барка і Старога Ляўкова белы цвет парыла.

Дык збірайма зёлкі. Гэта занятак выгадны і карысны. А цяпер у пачатку ліпеня надвор'е якраз спрыяльнае для гэтага. І на нашым рынку будзе больш зёлкавых лякарстваў, сумесяў, касметыкі, вітамінізаваных напіткаў і прыправы для страў.

**(яц)**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)

www.e-zorka.pl

# зорка

для дзяцей і моладзі




# Фільмавы бераг

Першы кадр „Нараўчанскай балады”: людзі разам з каровамі вяртаюцца праз раку на начлег з папасу. Сярод іх хлопец на кані. Людзі і жывёла па пояс купаюцца ў вадзе. На іх галовы падаюць чырвоныя праменні заходзячага сонца, мыкаюць каровы.

У гэтай сцэне адчуваецца моц аб’яднання чалавека з ракой...

Усё гэта адбывалася ў Бяндзюзе.

— А ці памятаеце Тамару Саланевіч? — пытаем у Рэгіны Міруць, жыхаркі Бяндзюгі.

— А як жа! Яна ў нашай вёсачцы фільмы здымала. Многія людзі з вёскі ў яе здымаліся...

Рэгіна Міруць — бабуля нашай сустрачанкі Юліты. Яна завядзе нас на бераг, дзе здымалі фільм.

— Там нават мая дачка здымалася, — кажа па дарозе.

— Мама Юліты?

— Так, яна тады была дзяўчынкай.

На месцы прывітаў нас маляўнічы бераг ракі Нарвы. Здзівіла бліскасць стадолаў, якія прытыкалі амаль да самога берага. На другім баку ракі зелянелі шаўковыя нясокошаныя лугі. Пасярод іх знаходзіўся грудок з дрэвамі, паблізу пасвіўся конь.

— Гэта Чыжоўскія лугі, — назвала месца жанчына.

— А чаму так іх у вас называюць? Чыжы далёка ж ад вас, недзе трыццаць кіламетраў будзе...

— Калісь гэтыя лугі належалі людзям з Чыжоў. Яны прыязджалі сюды на сенаванне і заставаліся пакуль не пасушаць сена. Тут харчаваліся, начавалі ў капіцах...

Рэгіне Міруць найбольш запамяталіся песні, якія адвячоркам спявалі хлопцы.

— Так прыгожа спявалі, што не расказаць... — уздыхае.

Пытаем у нашай субяседніцы як яна запамятала славутую рэжысёрку.

— Тамара была прыгожай і такой нашай... Па-простаму з людзьмі гаварыла.



Рэгіна Міруць ля сваёй хаты ў Бяндзюзе



**„Галерэя Тамары”**

— аўтары: Наталля Васько (Гімназія ў Нараўцы), Эва Аврачук, (Гімназія ў КШ з ДНБМ № 3 у Бельску-Падляшскім), Міхась Бабік (ПШ № 4 у Беластоку), Дамініка Благушэўская і Зузанна Кардзюкевіч (НШ імя свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку), Юліта Грыка (Гімназія ў Міхалове), Адам Сцепанюк (КШ з ДНБМ № 3 у Бельску-Падляшскім). Апрацоўка і праўкі: Валянціна Бабулевіч, Іаанна Марко, Уршуля Шубзда. Апошняя рэдакцыя тэксту: Ганна Кандрацюк.

## Куды на канікулы?

Каб пабачыць нешта цікавае, не трэба ехаць далёка. На Падляшшы аж чатыры нацыянальныя паркі. Найстарэйшы — Белавежскі, а наймалодшы — Бебжанскі (Бабровы).

Апрача паркаў у нас захаваліся пушчы. Самая першабытная і таемная — Белавежская пушча. Добры начлег можам знайсці ў Новым Ляўкове, у агратурыстычнай кватэры „Бора-Здруй”. Тут не толькі адпачнем пасля дарогі. Тут таксама смачныя хатнія стравы.

*„Людзі Тамары Саланевіч”*
*— Аляксандра Зінкевіч, КШ з ДНБМ імя Яраслава Кастыцэвіча ў Бельску-Падляшскім.*



Малюнак Патрыцыі Карлаў „Людзі Тамары Саланевіч”

## Вершы Віктара Шведа

### Глядзіць у вочы небяспецы

Янка сядзіць за партай,
Настаўнік дазнацца хоча:
— Чаму ты так надта ўпарта
Глядзіш мне проста ў вочы?

На гэта Ясь: — Менавіта
Сказаў пан учора, здаецца,
Што трэба мужна, адкрыта,
У вочы глядзець небяспецы.

### Размова над вадою

Стаіць над Нарвай дзядуля
І скардзіцца хлапчыне:
— Акуляры у Вісле канулі,
І не магу іх выняць.

— Гэта ж не Вісла, дзедка —,
Пачуў ён ад малога.
— Без акуляраў, дзетка,
Я не бачу нічога.

# Цалаваліся, стоячы ў халоднай вадзе...(ч. 2)

Інтэрв'ю з **Альжбетай Раеўскай-Нікановіч**, галоўнай гераіняй фільма „Нараўчанская балада”, сёння дырэктаркай Рэгіянальнага асяродка сацыяльнай палітыкі Падляшскай маршалкоўскай управы.


Фота Ганны КАНДРАЦЮК

***ГТ:** — А дзе былі зняты месцы да „Нараўчанскай балады”?*

**АР-Н:** — Я вельмі добра памятаю Старую Луку, там запісалі найбольш эпізодаў, у якіх я выступала. Многа сцэн знялі на прыватным полі маці Тамары Саланевіч. На іх полі акцёры жалі, сенавалі. У асноўным, усё круцілася непадалёк сённяшняга Семяноўскага вадасховішча.

***ГТ:** — Ці Вы хацелі б жыць у міжваенныя гады, паказаныя ў фільме „Нараўчанская балада”?*

**АР-Н:** — Гэта былі вельмі цяжкія часы. Я не хацела б, каб яны вярнуліся, каб людзі жылі ў такіх цяжкіх умовах. Іх жыццё сараўды было цяжкім і непрадказальным. А ўжо найгорш было бедным людзям. Іх прыніжалі і крыўдзілі на кожным кроку.

***ГТ:** — Як Вы адчувалі сябе іграючы ролю нешчаслівa закаханай дзяўчыны?*

**АР-Н:** — Вельмі добра. Я была ў такім узросце, калі дзяўчаты вельмі часта бываюць нешчасліва закаханымі.

***ГТ:** — А ці Вы баяліся іграць некаторыя эпізоды ў фільме?*

**АР-Н:** — Так, найбольш я баялася сцэн, дзе трэба было цалавацца. Гэтыя эпізоды здымалі пад канец лістапада. У рацэ была вельмі халодная вада. Гэта трэба было паўтарыць многа разоў. Ну і мы цалаваліся стоячы ў халоднай вадзе.

***ГТ:** — Вам падабаўся Ваш партнёр?*

**АР-С:** — Не, мне трэба было цалавацца з асобай, якой я не любіла. Гэта быў мой сябра з ліцэя, з іншага класа. У фільме трэба было паказаць усе пачуцці, а я проста яго не любіла. Трэба было сябе перамагчы.

***ГТ:** — А якія сцэны яшчэ выклікалі Ваш унутраны супраціў?*

**АР-С:** — Скажу інакш. Мне трэба было многаму навучыцца, напрыклад, хадзіць басанож па пожні, жаць сярпом. Але на здымачнай пляцоўцы была вельмі сардэчная, добрая атмасфера, і гэта вельмі дапамагала. Людзі дапамагалі, дзяліліся ўсім. Па сёння памятаю як смакаваў хлеб з печкі і малако проста ад каровы. Гэтую вясковую яду з фільма ўсе акцёры і здымачная брыгада елі і хвалілі, ніхто не марнавалася. На патрэбы фільма закалолі свінню і зрабілі вырабы, як пад вяселле. Уся пасуда, прылады і гліняная печ былі аўтэнтычныя, са старой хаты, дзе нармальна жылі людзі. Шкада, што многія матывы сцэнарыя, якія былі зняты, не трапілі ў фільм.

***ГТ:** — Ці пасля фільма Вы хацелі стаць акцёркай?*

**АР-Н:** — І так, і не. Я падпісала дамову на тры серыі фільма — гэта меў быць нарваўскі трыпціх. Падзеі мелі адбывацца не толькі ў міжваенны час, але і ў час вайны ды ў першыя пасляваенныя гады. Гэта не атрымалася, мабыць па фінансавых прычынах. Пані Тамара хацела, каб я пайшла вучыцца ў фільмавую школу ў Лодзі. Яна мяне любіла. Ставілася да мяне як да дачкі, якой не мела. Я была з ёй моцна звязаная. Пэўна я пайшла б у гэтую школу, але раней трэба было закончыць ліцэй, здаць *матуру*. Брат і маці не хацелі, каб я была акцёркай, але я хацела. У канцы канцоў я таксама раздумалася.

***ГТ:** — Ці пасля фільма Вы мелі сваіх фанаў, паклоннікаў?*

**АР-Н:** — Так. Гэта мая сям'я, сябры, Але былі таксама нядобрыя „фанаты”, напрыклад некаторыя настаўніцы з ліцэя. Яны вельмі мяне „любілі” за тое, што я знялася ў фільме.

***ГТ:** — Вы сказалі, што Вам быў нелюбы акцёр, які іграў Васю. А можа ў гэтым фільме Вам падабаўся іншы акцёр?*

**АР-Н:** — Не, хаця вакол нас заўсёды круцілася многа хлапцоў з Нараўкі. Мне падабаўся адзін фатограф, але толькі па характары. Мы вельмі многа з сабой размаўлялі.

***ГТ:** — Ці пасля заканчэння здымкаў Вы падтрымвалі кантакты з героямі фільма, з некім са здымачнай брыгады?*

**АР-Н:** — Там выступалі мае школьныя сябры. Мая саперніца, Насця — гэта сяброўка па школьнай парце. Мы часта пра гэта гаварылі, часта ўспаміналі.

(працяг будзе)

*„Галерэя Тамары” — аўтары: Наталля Васько (Гімназія ў Нараўцы), Эва Аўярчук (Гімназія ў КШ з ДНБМ № 3 у Бельску-Падляшскім), Міхась Бабік (ПШ № 4 у Беластоку), Дамініка Благушэўская і Зузанна Кардзюкевіч (НШ імя свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку), Юліта Грыка (Гімназія ў Міхалове), Адам Сцепанюк (КШ з ДНБМ № 3 у Бельску-Падляшскім). Апрацоўка і праўкі: Валянціна Бабулевіч, Іаанна Марко, Уршуля Шубзда. Рэдакцыя тэксту: Ганна Кандрацюк.*

## Маладое жыццё

**Маладое жыццё,**
**Першае каханне,**
**Расчараванне.**
**Новыя людзі на дарозе,**
**Навука і гульня,**
**Сям'я і сябры.**
**Трывогі і поспехі.**
**Ці ведаеш —**
**Што гэта маладое жыццё?**

*„Галерэя Тамары” — Наталля Васько, I кл. Гімназіі імя Тамары Саланевіч у Нараўцы.*

## Гарбузны суп

Каб згатаваць гарбузны суп, трэба:

1 кілаграм жоўтага гарбуза,
$^1/_2$ літра вады,
1 $^1/_2$ літра малака,
соль і цукар (да смаку).

Абяры гарбуз са шкуры і парэж яго на часткі, кінь у гаршчок, залі вадой і калі вада закіпіць, вары яшчэ 15 хвілін. Пасля працэдзі праз сітка, дадай зацірку або рыс і ўсё вымяшай. Дадай да смаку соль і цукар. Суп вельмі падыходзіць на лета.

*„Людзі Тамары Саланевіч” — Крыстыян Паскробка, КПШ у Нарве.*

## Сустрачанская крыжаванка аб прыродзе № 28

Запоўніце клеткі беларускімі словамі паводле значэнняў: 1) Сінонім слова дарога. 2) Хітрая рыжая жывёла. 3) Растуць на яблыні. 4) Жоўтае свеціць неба. 5) Цвіце белым колерам. 6) Ездзіць на... 7) Белы, падае зімой. 8) „Родзіць” жалуды. 9) Звяры, якія жывуць у Белавежскай пушчы.

Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды. Аўтарка крыжаванкі — Аляксандра Зінкевіч.

**Адказ на крыжаванку № 24:**

Ток, міска, вясёлка, сон, порт, Об, Ікар, дывізія. Пік, мядок, біс, рад, сёстры, шкло, акно, бэз, камедыя.

Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі **Патрыцыя Бядрыцкая**, **Іаанна Лукша**, **Аня Бяляўская** з Нараўкі, **Юлія Скарбіловіч**, **Магдалена Хвашчэўская**, **Кацярына Лаўрашук** з Бельска-Падляшскага. Віншуем!



Малюнак Аляксандры Зінкевіч

*Вікар ШВЕД*

## *У юбілей „Белавежы”*

*Ізноў дайшла пяцёрка*
*Да творцаў пайстагоддзя.*
*Няхай пад шчаснай зоркай*
*Наша жыццё праходзіць.*
*Хай будзе ў нашых творах*
*Высновы подых свежы,*
*Хай у жыцця прасторы*
*Вядзе рэй „Белавежжа”.*
*Хай і ў сваёй гаворцы*
*Квітнее асяроддзе,*
*Хай прыбывае творцаў*
*Больш чым адыходзіць.*
*А нашыя імкненні*
*І нашая надзея –*
*Безліч творчых здзяйсненняў*
*І новых юбілеяў!*

## *Паядынак*

*Кіну рукавіцу смерці*
*пад ногі*
*Мае секунданты*
*паэзія з пяром у далоні*
*філасофія прыроды з адкрытай кнігай*
*і матэматыка з каронай*
*на галаве*
*Памочнікі*
*кібернетыка*
*і генетычная інжынерыя*

*Стрэлю эліксірам жыцця*

*Труп смерці згарыць у агні*
*Гефеста*

***Барыс Руско***
***Пераклаў Віктар Швед***

## *Няма ўжо Шведаў роду ў Моры*

*Вёска Мора існуе ад 1568 года*

*Няма ўжо Шведаў роду ў Моры,*
*Ён поўнасцю ўжо на пагосце.*
*Ўспрыняў ратацыю з пакорай,*
*Як сталае ў прыродзе штосьці.*

*Ужо ў семнаццатым стагоддзі,*
*Як наша хроніка гаворыць,*
*Жыў безумоўна і мой родзіч*
*З сям'ёю Швед Лук'ян у Моры.*

*Прайшло чатырыста гадочкаў*
*І безліч пакаленняў Шведаў,*
*У намагільным спяць пясочку*
*І безыменна, і без следу.*

*Тыя, апошнія ўжо з роду,*
*Што працавалі на палосках,*
*Пакінулі нас назаўсёды.*
*Дык памірае нават вёска...*

*Беласток, 1 ліпеня 2013 г.*

## *Сахарына*

*У міжвойні, памятаю,*
*Бедна жылося майму люду.*
*Ніхто не піў у вёсцы чаю,*
*А ліпавы цвет ад прастуды.*

*Цукар быў дарагою стравай*
*І недаступнай селяніну.*
*Гандляр прыкідваўся кульгавым –*
*Тайнік у лясцы з сахарынай.*

*І тыя цукру сурагаты*
*Былі салодкімі надзвычай.*
*Купляў заўсёды іх мой тата,*
*Яны з падманлівым абліччам.*

*І не забуду я ніколі*
*Спякотнай жніўеньскай хвіліны:*
*Вады вядро нёс тата ў поле,*
*Салоджанае сахарынай.*

*Беласток, 17 чэрвеня 2013 г.*

# «Гарадоцкі знахар»

Таварыства сяброў Гарадоцкай зямлі сёлета хоча выдаць зборнік легенд, павер'яў, забабонаў і знахарскіх замоў ды працэдур «Знахар гарадоцкі», сабраных леснікам Адамам Ціунчыкам з лясніцтва Смалярня Надлясніцтва Валілы. Гміна дзеля падтрымання гэтай задачы надзяліла на выкананне праекта дзве тысячы злотых у конкурсе адкрытых тэндараў «Меры і ініцыятывы па садзейнічанні дзеля гміны і яе культурнай спадчыны ў галіне культуры, мастацтва, аховы культурнай спадчыны і традыцый». Вядома, такой сумы не хопіць на выданне кнігі ўвекавечваючай мінулае.


Фота Янкі КАРПОВІЧА

Род Міры Лукшы і Адама Ціунчыка выводзіцца легендарнага Раманава

Праект мае быць завершаны да канца года. Да якіх межаў сягае абшар, які даследуе Адам Ціунчык у сваім зборы ў пару дзесяткаў тэкстаў? — яшчэ раз перапытвае лесніка на сустрэчы асоб зацікаўленых праектам, сабраных у канферэнц-зале Гарадоцкага цэнтра культуры, Барбара Нічыпарук — старшыня Таварыства. Сёння, 21 чэрвеня, на сустрэчу прыйшлі яшчэ Ірэна Матысюк, Янка Карповіч і Альжбета Грэсь. Раней легенды запісвала таксама моладзь гарадоцкіх школ.

— Друкаваліся яны і ў «Гарадоцкіх навінах», — кажа ляснік. — Але іх усё яшчэ замала. І абсяг шырэйшы, мабыць, чым сама, больш сучасная Гарадоччына. Бо адкуль можа быць успамін аб кургане ў лесе, святым месцы з ранняга сярэднявечча? Найбольш легенд маю са Скрабляк оў, Меляшкоў, Крушынян. Меляшкі — бо мая бабуля з Меляшкоў. А са Скраблякамі і Крушынянамі сябрую, працую там як ляснічы. Тут бліжэй — вёска Валілы. Я спісаў легенду, аказалася, што ўжо ёсць спісана такая на рускім сайце, дык прыйдзецца спаслацца і на яе. Маем і Радунін, і Раманава... З Раманава — ад цёткі Ніны, жонкі майго дзядзькі Валодзі, сабраў я прыспеўкі. Песні будуць аддзяляць раздзелы кнігі. Стараюся, каб былі гэта іншыя песні, чым сабраў Сцяпан Копа. У кнізе будуць таксама здымкі... Першапачаткова я думаў пра збор матэрыялаў аб забабонах і знахарскіх метадах лячэння толькі з тэрыторыі гмін Гарадок і Крынкі, але ў цяперашні час пры змяшанні насельніцтва гэта не мае сэнсу. Калі пачую цікавую гісторыю з-пад Міхалова ці, скажам, ад Супраслі, чаму б яе не зафіксаваць? Заўсёды падаю крыніцу інфармацыі. Будзе і здымак, напрыклад, крушынянскага мізара, бо ў зборы будзе аповесць пра здань на мізары. Ёсць у нас аповеды і з Міхалова, і з Крынак... Да нашага часу ходзяць ад вёскі да вёскі легенды аб даваенных знахарах і нават неабавязкова даваенных, хто меў спосаб і малітву «на ўсё». Гэта не ўзялося з ніадкуль. Калі, напрыклад, засталіся гісторыі аб скаваных апантанцах, якіх прывозілі на вазах, таму што інакш іх немагчыма было даставіць да знахара ці знахаркі, і пасля кароткай малітвы над гэтым чалавекам, дакрананні Святым Пісаннем ці Каранам да ілба, шаленства праходзіла, гэта паказвае на непаўторную харызму гэтых аздаравіцеляў, з другога боку, на моцную веру ў вылячэнне ў хворых... Кніга павінна быць папулярнай сярод чытачоў.

— Я прадстаўлю прадпасылкі праекта, — улакладнее Барбара Нічыпарук. — Спрабуем выдаць каля 150 экземпляраў кнігі, па прычыне нізкага бюджэту праекта. Плануем выдаць зборнік велічынёй школьнага сшытка (А-5), але хочам, каб гэты сшытак ўключаў каляровыя здымкі, прамуючыя прыгожую прыроду Гарадоцкай зямлі і не толькі, таксама і месцы, якіх гэтыя легенды будуць датычыць. Матэрыялы, якія будуць змешчаны ў кнізе, будуць прасоўваць перш за ўсё лакальную пісьменніцкую творчасць. Звярнуліся мы таксама з просьбай да надляснічага, каб падтрымаў наш праект і даклаўся (700 злотых ужо прыйшлі). Разлічваем таксама на тое, што знойдуцца ахвотныя, якія хоць крышачку ўплацяць на наш рахунак, каб павялічыць тыраж, бо ён хутка разыдзецца.

— А і я свой паёк дакладу, — абяцае аўтар. — Ведаю яшчэ адну асобу, якая дэкларуе сваю падтрымку.

— Выпадала б дакласціся чымсьці з нашага дому культуры... — дадае Янка Карповіч.

Чытачам будзе цікава! Былі розныя спосабы замаўляння, у розных варыянтах... Вынікі залежалі ад розных абумоўленасцей.

— Пры гэтак званым замаўлянні хвароб і нямогласцей народнымі спосабамі, ёсць велізарная гнуткасць, — тлумачыць Адам Ціунчык. — Генеральна справа ва ўражанні на пацыенце і засеянні ў ім веры, што працэдура дапаможа. Напрыклад, пры замове «ружы» або «ветру» шмат розных метадаў, у залежнасці ад вёскі і нават сям'і, якая прымяняе замову. Гэты від лячэння ўжываецца не толькі знахаркамі і шаптухамі, але і звычайнымі жанчынамі, якія штодзень не займаліся чарамі, былі звычайнымі жонкамі і маці, а за лячэнне браліся толькі тады, калі хвароба закранула кагосьці з членаў сям'і. Так было ў выпадку маёй бабулі. Зараз, калі ведаю, як гэтыя гісторыі каштоўныя і цікавыя, я не магу абмежавацца толькі да выпадковых сустрэч з людзьмі. Мне часта даводзіцца мець справу з людзьмі старэйшага ўзросту, якія жывуць у старых, паміраючых вёсках, якія на тэрыторыі майго лясніцтва купляюць дровы на апал. Няма спосабу завяршэння фармальнасцей, каб не гаварыць з імі пра іншыя рэчы. Часам сапраўды трапляецца хтосьці, каго варта «пацягнуць за язык», таму што ён мае для пераказання важныя рэчы. І калі я ўсведамляю сабе, што гэта, мабыць, апошні чалавек у вёсцы, хто можа мне расказаць гэтую гісторыю, я засяроджваюся на ёй і выцягваю з яго ўсё, што ўдасца. Напрыклад, у мяне ёсць інфармацыя, што нейкая бабуля дзесьці лечыць знахарскімі спосабамі. І вось я іду да яе, прадстаўляюся і прашу, каб дала нейкія спосабы на лячэнне недамаганняў. Часам бывае, што бабулька пакрыўдзіцца на мяне і скажа: «Я не знахарка». Тады я адказваю: «Пані, я таксама не знахар». Тады я расказваю пра розныя метады лячэння, якія я ўжо ведаю. Напрыклад, як лечаць «ружу» ў Лужанах, Мастаўлянах, і пытаюся ў яе, ці яна ведае як лечаць ружу ў Крушынянах. Тады такая асоба больш раскрываецца. Я стараюся шукаць іншых крыніц інфармацыі. Распытваю, хто з пажылых людзей у вёсцы мог бы мне сказаць нешта цікавае, пераказаць. Калі натраплю на след кагосьці такога, сам еду да яго і размаўляю. І так пашыраецца абшар маіх даследаванняў. Усё пачалося ад легендаў і паданняў, пасля пачаліся мясцовыя знахарскія метады лячэння, дайшлі забабоны, якіх шмат утрымалася на нашай тэрыторыі. У апошні час паявіліся прыспеўкі. Я вырашыў, што варта іх таксама запісаць. Назапасілася іх ужо нямала. У нейкай ступені матывавала мяне амбіцыя, каб захаваць легенды і гісторыі лепш, чым іншыя зрабілі гэта да гэтага часу. Усе гісторыі хачу прадставіць у нескажоным выглядзе, аўтэнтычна. Калі іх спішу, такім спосабам штосьці захаваю. Да маіх зацікаўленяў і дзеянняў прывяла мяне спецыфіка маёй прафесіі лесніка. Характар матэрыялаў, сабраных мною, з'яўляецца ўніверсальным. Я думаю, што яны не могуць быць непасрэдна аднесены да веравызнання, рэлігіі або нацыянальнасці. Яны проста датычаць таго ці іншага абшару, асабліва тых вёсак, якія я найлепш пазнаў.


Кнігу Фёдара Шылера-Школьніка прынесла Ірэна Матысюк

Фота Міры ЛУКШЫ

Варта пазнаёміцца яшчэ з іншымі шукальнікамі помнікаў старадаўнасці. Янка Карповіч падказвае імя Вінцука Фідзюкевіча родам са Слоі, што жыве на Спартыўнай вуліцы ў Гарадку, Ёзіка Сітніцкага з Вераб'ёў, Януша Цімаховіча... Ірэна Матысюк бяжыць адразу дадому па кнігу Наталкі Тарасэвіч з Калоднага з нататкамі на зборніках Фёдара Шылера-Школьніка. Знахарскія працэдуры прымянялі таксама і «простыя» бабулі і мамы, напрыклад Басіна бабуля Маня Жукоўская з Кашаровай вуліцы... Кніга «Знахар гарадоцкі» знойдзе чытача!

**Міра ЛУКША**

# На колішніх лядах

Аўтобусныя прыпынкі з'яўляюцца ў нашай рэчаіснасці своеасаблівымі мастацкімі майстэрнямі, дзе маладыя творцы праяўляюць усе сваё, не абмежаваныя ніякай цэнзурай, здольнасці. Гэта сапраўдная аўтэнтычная народная творчасць, у сваёй першабытнай форме, значыць неапрацаваная, такі неапрацаваны фальклор. Гэтая думка навеялася мне, калі я злез з аўтобуса на прыпынку, што побач вёскі Рэпіскі.


„Сімвалы веры" каля Лядаў

Недалёка ад прыпынку абярэжны візантыйскі крыж, выкананы мультымедыйнымі сродкамі. Сам крыж, менавіта, звараны з фабрычных жалезных трубак, але ягоны пастамент выкананы з прымяненнем хатняй кемлівасці, дзе ролю формы для цэменту сыграла старое металічнае вядро.

Ад Рэпіск у напрамку Курашава камерная жвіроўка, на якую вядуць наступ розныя зёлкі, але пакуль яшчэ не ўдаецца ім захапіць усяго дарожнага палатна. Хаця прыдарожны краявід мяняецца з ходам апошніх дзесяцігоддзяў: сям-там вырастае малады лясок, сям-там гаспадаром поля становіцца прырода. Нават жвіравы кар'ер, што не надта далёка ад Рэпіск, забірае пад сваю апеку расліннасць.

А людзі быццам прыціхлі, толькі час ад часу падаюць нейкі голас, які сведчыць, парафразуючы словы дзяржаўнага гімна, што *jeszcze wioska nie zginęła*. А маю тут на думцы нядаўні віртуальны шум вакол планаў керамічнага завода ў недалёкай Трывежы.

У чэрвеньскі час сакавітую візуальную зелень нашага тутэйшага краявіду ўзбагачвае іншы мультымедыйны кампанент — птушыная музыка. І яна яшчэ ў класічнай форме, чысценькая, без рэпавых ці металічных дадаткаў.

Перад Уснаршчынай задзіўляюць мяне гаі даволі высокай лазіны. А сама вёска здаецца быць ахутана ў цішыню і духмяны ліпавы цвет. Паварочваю ў вясковую вуліцу, якая так як і названая раней дарога — камерная, жвіровая. З першага панадворка, які здаецца быць незаселеным, азываецца сабака. У другой хаце, якая таксама быццам закрытая ад вонкавага свету, прыадкрытая аконная фортка. З трэцяга панадворка выходзяць жанчына з мужчынам, абое сярэдняга ўзросту.

Апошнімі гадамі міграцыя здаецца крыху мяняць свае вектары. Раней мела яна, па сутнасці, адзін толькі напрамак — з вёскі ў горад. Цяпер жа запускае парасткі і адваротны напрамак. І ў нашых вёсках ужо пражываюць не толькі абарыгены, але і носьбіты іншых цывілізацыйных здабыткаў. Таму пасля прывітання і пытанне — ці яны мясцовыя. Мужчына мясцовы, жанчына з Дрыгалаў, што паміж Элкам і Пішам. Размова ідзе шматмоўна і добразычліва...

Цяпер ва Уснаршчыне пражывае каля дзесятка чалавек. Раней жа, у час моладасці майго субяседніка, у гэтай малалікай цяпер вёсачцы было каля трох дзесяткаў маладых людзей. Ва Уснаршчыне ладзілі забавы, на якія прыходзіла гуляць моладзь нават з Каменя. А калі не стае людзей, то і не стае таксама і жывёлы, якая спрадвечна спадарожнічала чалавеку. У сакавітай зелені пасвіцца адна на ўсю вёску карова — уласнасць маіх суразмоўцаў.

— А адкуль жа ўзяліся навокал лазовыя зараснікі? — цікаўлюся.

— Адзін такі накупляў навокал зямлі і паверыў у тое, што наш урад абяцае, — агульна адказаў мужчына.

— І ні разу тае лазы не касіў, — папаўняе жанчына.

Уснаршчына ўзяла сваю назву ад прозвішча ранейшых уладальнікаў — Снарскіх. Ды і яны мяняліся; *Слоўнік Каралеўства Польскага* век таму паведамляў: „Snarszczyzna, pow. bielski, gub. grodz. Oprócz wsi jest fol[wark] (65 dz[iesięcin]), własność Tarnawskich".

Чарговая мясцовасць. *Слоўнік*: „Maksymowszczyzna, fol[wark], pow. bielski, gub. grodz., gm. Kleniki, Wilczewskich 60 dz[iesięcin]". Гэта па сутнасці некалькі постфальварачных хутароў, якія зараз здаюцца быць не надта заселеныя. На прыдарожным умяшчальніку з шасці паштовых скрынак толькі на дзвюх пазнакі іх ужывання — замкі...

Так выглядае наша дэмаграфія, а яна відавочная яшчэ і ў жывёльным краявідзе. Менавіта не надта мнагалікія цяпер кароўкі жуюць жуйку амаль схаваўшыся ў высокай траве, як якія зайцы. Каровам цяпер пашы ўдосталь, не тое што калісь, калі іх папярэднікі грызлі г.зв. бубен.

Праходжу каля Курашава, кіруючыся ў бок Лядаў. *Слоўнік*: „Lady, wieś, pow. bielski, gub. grodz., gm. Kleniki, 14 w[iorst] od Bielska, 261 dz[iesięcin]. Za wsią śród lasu koło rzeki Łoknicy 6 owalnych kurhanów, zwanych przez lud Szaniec, otoczonych rowami". Ды і тут краявід гэтага „Шанца" змяніўся, але раней — сем дзесяткаў гадоў таму. Стэнд побач аб'екта:


Каплічка з 1850 года ў Кленіках

„Niedaleko wsi Lady, ale już na polach Kuraszewa, w latach 30 XX w. „objawiło się" źródełko ze świętą wodą. W 1942 r. w jego sąsiedztwie zbudowano cerkiewkę p.w. św.św. 7 braci Machabeuszy. Do ułożenia fundamentu użyto wielu kamieni z pobliskiego „Zamczyska" (cmentarzyska ciałopalnego datowanego na XI-XII w.) Inicjatorem budowy kapliczki był Teodor Pawluczuk, nazwany Fiedią Ślepcem. Według relacji mieszkańców ślepy starzec Fiedia uzdrowił wielu chorych szepcząc modlitwy i jako lekarstwo podając im wodę ze źródełka. Dziś źródełko jest otoczone wieloma większymi i mniejszymi, starymi i nowymi symbolami wiary prawosławnej". Служба ў капліцы правіцца ў дзень ушанавання памяці братоў Макавеяў — 14 жніўня.

Вада ў крынічцы знаходзіцца каля метра ніжэй узроўню грунту, там адмысловая студня. І металічны кубачак, і жэрдка з цвікам для чаплянння таго кубачка. Трэба было мне крышку патрэніравацца, каб выцягнуць пасудзіну, не дазваляючы ёй перакуліцца. Студня ўжываецца вельмі рэдка і хаця яна закрыта даволі шчыльным векам, усё ж такі ў вадзе плавае шмат невялікіх абломкаў дробнага галля; невялічкія жывінкі таксама туды заглядаюць. Мо сучасны гарадскі спажывец, напалоханы рознымі санітарнымі засцярогамі, пабаяўся б піць такую ваду. Але ж вада гэта частка тае агульнае прыроды, тае зямелькі, з якой вырастае сам чалавек. Выпіў я два кубачкі тае вадзічкі з верай у яе гаючую моц, якая засведчана народнымі расказамі. І рэкамендую яе ўсім тым, хто будзь-калі там апынецца.

Падаўся я Царскім гасцінцам у бок Кленік. На адным з палеткаў, што за Лядамі, працавала адзінокая жанчына. Аднак у наш віртуальны час само візуальнае выяўленне не заўсёды паказвае ісціну. Тая „адзінокая" жанчына громка абменьвалася думкамі з нейкім размоўцам, нябачным чалавечым вокам, але бачным прыдуманымі тым жа чалавекам віртуальнымі вачыма.

„Царская" жвіроўка ў бок Кленік на адным з яе адрэзкаў пралягла між двума палеткамі пшаніцы. Адзін з тых палеткаў даволі рупліва праполаты з пустазелля; праполаты — у наш час — не рукамі, толькі гербіцыдамі. А вось другі палетак уражваў багаццем расліннасці: мабыць там побач пшаніцы растуць і ўсе іншыя палявыя пароды, захаваныя ў Ноевым каўчэгу ў часе сусветнага патопу. Захапленне гербіцыдамі паступова прыгасае, ды і медыцына рэкамендуе зараз спажыванне „шматкультурных" дароў зямлі. Навыдумвалі людзі розных аграрэхнічных фокусаў і неўзабаве можа аказацца, што гэта была Сізіфава праца...

Пра Кленіцкі прыход дваццаць шэсць гадоў таму а. Рыгор Сасна быў пісаў: „Po powrocie unitów na łono Kościoła prawosławnego wśród miejscowych parafian przejawiała się skłonność do zachowania niektórych praktyk religijnych, pochodzących z czasów unickich. Zachowały się dokumenty świadczące o tym, iż władze duchowne podejmowały starania o oczyszczenie tych praktyk z naleciałości obcych. Między in. zachowała się relacja z 29 czerwca 1860 roku o niedopuszczeniu przez grupę parafian odbywania procesji dookoła cerkwi w Klejnikach według zwyczaju Kościoła prawosławnego i o zaistniałym na tym tle incydencie. Zachowało się również pismo zakazujące odbywania procesji w Klejnickiej cerkwi do czasu, kiedy parafianie wyrażą zgodę na stosowanie w tym praktyki Kościoła prawosławnego".

У Кленіках захаваўся таксама іншы сведка таго часу. Менавіта на прыцаркоўным пляцы стаіць драўляная капліца-стэла з пазначанай на ёй датай яе ўзвядзення: 25 верасня 1850 года. На ёй выразаны яшчэ і два тэксты на царкоўнаславянскай мове. Адзін з іх, „И Слово плоть бысть и вселися въ ны" — гэта чатырнаццаты сказ з першага раздзела Евангелля ад святога Яна. А ніжэй чарговы тэкст: „Буди Господи милость Твоя, іако же мы уповахомъ на Тя". А гэта ўжо фрагмент славутага гімна *Te Deum* (лац. Te Deum laudamus — слав. Тебе, Бога, хвалим). Гэты гімн, які быў напісаны каля 300-га года н.э., даволі часты ў заходняй хрысціянскай абраднасці і менш часты ва ўсходняй. Магчыма, што ў палове XIX стагоддзя іерархі вернутай усходняй абраднасці рэкамендавалі песнапенні „według zwyczaju Kościoła prawosławnego", а прывыклым да зрэфармаванай на каталіцкі лад уніяцкай абраднасці вернікам не хацелася развітвацца з адной з найбольш пафасных іхніх малітваў. Таму, магчыма, і ўвекавечылі фрагмент яе на сцяне сваёй святыні.

Насупраць прыцаркоўнага пляца прыхаваны за зеленню дрэў будынак былой кленіцкай школы. Можна было б панаракаць, што ў вёсцы моладзь звадзіцца. Але гэта толькі ілюзія. На двух аўтобусных прыпынках, што ў напрамку Бельска, вельмі рупліва сарваны расклады язды аўтобусаў, а гэта значыць, што ў Кленіках моладзь яшчэ дзейнічае. Затое зараз за Кленікамі, пры скрыжаванні бельскай шашы з дарогай у Сапава і Лешчыны, расклад захоўваецца як нейкі помнік культуры. Але гэта заслуга будаўнікоў паветкі для пасажыраў, бо паставілі яны яе так, што з яе не відаць аўтобуса, а з аўтобуса не відаць чакаючага пасажыра — лёгка размінуцца. Перад зарослай пустазеллем паветкай нават непаседная моладзь разводзіць рукі...

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**




# Замалёўкі з падарожжа

**Даўно збіраўся я паехаць у Беласток, але заўжды штосьці на перашкодзе ставала. Дочкі сказалі: «З ліпеня дзеці выязджаюць у Закапанэ на двухтыднёвую гарцэрскую вандроўку. Тэрмінова ў сераду трэба ўнукам даручыць пасылку».**

Хочаш не хочаш, пакідаю цяпліцу і агародчык пад апеку маладых дамачадцаў. Сам раннім цягніком, адзіным у суткі, адпраўляюся ў падарожжа. З Чаромхі ад'ехалі пунктуальна ў 5:35.

Рэйкавы аўтобус (з кандыцыянерам) шпарыў 70 км/гадз. Не агледзеўся, калі ў Кляшчэлі пад'ехалі. Станцыя прывітала маўклівай цішынёю. Уваходныя дзверы пачакальні і вокны забіты плітамі з цынкавай абліцоўкай. Будоўля памятае бацюшку-імператара, бо гэта пры царскім парадку будавалі яе для наглядчыкаў пуцявых рабочых. Яшчэ некалькі год таму ў верхняй частцы будынка кватараваліся дзве сям'і чыгуначнікаў. Зараз памяшканне нікому непатрэбнае. І з-за таго, што будынак лічыцца помнікам архітэктуры і патрабуе згоды на знос рэстаўратара, Прадпрыемства чыгуначнай маёмасці не можа яго дэмантаваць. Праз акно спаглядаю на шырокую паласу някошаных сенажацей, якія мяжуюць з жалезнай дарогай. Парослая пустазеллем сакавітая трава нікому непатрэбная. Так як і будынак пачакальні...

Перон у Сухавольцах парастае пустазеллем. Ніхто за ім не наглядае. Мураваны будыначак пачакальні з прыбіральняй, пабудаваны на грамадскіх пачатках жыхарамі навакольных вёсак, разбурылі ў мінулым годзе. Чыгунка паклапацілася адно пра шыкарна апраўленую табліцу з раскладам язды. Такі ж лёс спаткаў пачакальні ў Рыгораўцах, Падбеллі і Райску. На дзвюх апошніх станцыях будынкі былі мураваныя, збудаваныя пры царскім парадку. Аб Ляўках лепш не напамінаць. Даўней крыжаваліся тут пуці белавежскай і чаромхаўскай чыгуначных ліній. Працаваў тут дзяжурны-распарадчык. Зараз у Гайнаўку і Белавежу чыгуначным транспартам адтуль не даехаць. Пуць парастаюць кусты і малады хвайняк.

На адрэзку трыццаці трох кіламетраў пасадку зрабіла не больш дзесяці чалавек. Столькі ж выйшла ў Бельску-Падляшскім.

У Беласток прыехалі мы пунктуальна, па раскладзе язды — у 7:20. Падаюся на прыпынак гарадской камунікацыі. І тут узніклі праблемы. У час маёй адсутнасці (апошнім разам Беласток наведаў я ў пачатках траўня) памянялі парадак курсіравання аўтобусаў. „Пяцёрка", якою я падаваўся з вуліцы Мальмеда (прыпынак Заменгофа), на пасёлак Пяста зараз не заязджае. Шпарыць проста Алеяй Пілсудскага на пасёлак Пяста, затым на Таваровую. Мала таго. Там дзе трэба было мне выходзіць, на прыпынку Мешка І змянілі назву на „Пяста". Затым мне прыйшлося дапытваць прахожых ці падаюся правільна ў назначаным напрамку. Скажаце пэўна, даражэнькія, што Сідарука склероз спасціг? Не, гэта Беласток мяняе аблічча. Дзе не глянеш — на вуліцах шмат раскопаў, катлаванаў, ды бачная пракладка новага асфальтнага палатна. Уцяпляюцца і праводзяцца абліцовачныя работы жылых карпусоў. Мадэрнізаваны віядук на чыгуначным прыпынку „Стадыён". Нічога не скажаш, прэзідэнт горада Беластока Тадэвуш Трускаляскі — гаспадар над гаспадарамі! Шкада толькі, што прагрэс дасягае адно сталіцу Падляшша. Рубяжы прыгранічных вёсак і пасёлкаў вяртаюцца да эпохі XIX стагоддзя і „Дзікага захаду", дзе цягнік прыязджае раз у суткі, а станцыю ад станцыі раздзяляе шматкіламетровая далечыня незаселенай прасторы. Ці гэта справядліва?...

**Тэкст і фота Уладзімір СІДАРУК**

## Ноч Купалы

13 ліпеня г.г. (субота) Гмінная ўправа і Гмінны асяродак культуры (ГАК) у Нараўцы (Гайнаўскі павет) ды Галоўнае праўленне БГКТ у Беластоку арганізуюць летняе абрадавае мерапрыемства „Ноч Купалы".

Мастацкія калектывы з вянкамі збіраюцца ля ГАК а гадзіне 19:00. Карагод пойдзе па вуліцы Міцкевіча на мясцовую спортпляцоўку а гадзіне 19:40.

Урачыстае адкрыццё „Ночы Купалы" а гадзіне 20:00.

Апоўначы (а гадзіне 00:00) — феерверкі.

Пусканне вянкоў па рацэ Нараўцы а гадзіне 00:10—00:20. Танцавальная забава з калектывам „Ас" ад 00:30 да 03:00.

Падчас чатырохгадзіннага канцэрта выступяць хары „Росніца" з Гродна і „Крыніца" з Беластока, мастацкія калектывы „Нараўчанкі" ды „Маладыя Нараўчанкі" з Нараўкі, „Арт Пронар" з Нарвы, „Асенні ліст" з Гарадка, „Гэвен" і „New Band" з Гайнаўкі ды „Белы птах" з Мінска.

Арганізатары ветліва запрашаюць на адзіную такую ноч у годзе! **(яц)**




З людзьмі ў жыцці здараецца ўсялякае, прычым бывае, што адно і тое ж. Праўда, людзі на гэтае адно і тое ж рэагуюць па-рознаму. Прычына тут у адрозных поглядах не толькі на асобныя падзеі, а ўвогуле на рэчаіснасць, то-бок людзі маюць розныя светапогляды, якія і вызначаюць іх стаўленне і паводзіны.

Светапогляд вельмі важная рэч і ў грамадскім жыцці. Калі прыхільнікаў нейкага светапогляду вельмі многа, то, натуральна, яны навязваюць яго іншым, вобразна кажучы, прымушаючы глядзець на свет не сваімі вачыма. Асабліва яскрава гэта бачна ў таталітарных і аўтарытарных грамадствах, да якіх адносіцца, напрыклад, Беларусь, дзе брутальна падаўляюцца іншыя погляды на рэчаіснасць, акрамя той, што ўласціва правячай групоўцы.

Разам з тым, на 100% выкінуць з галоў людзей адзін светапогляд і замяніць яго на нейкі выгадны ўладам немагчыма. Прынамсі, не ўдавалася гэта нават такім таталітарным монстрам як Савецкі Саюз ці нацысцкая Германія — людзі ўсё роўна глядзелі на свет скрозь уласныя жаданні, жыццёвы вопыт, страхі, захапленні і гэтак далей, што несла ў сабе зародак іншадумства, нязгоды, крытычнага стаўлення да агульнапрынятых нормаў грамадска-палітычнага жыцця.

Хоць у цяперашнім беларускім жыцці не надта многа яскрава вызначаных і праяўленых навукова абгрунтаваных светапоглядаў, што адрозніваюцца ад уладнай мала для каго зразумелай ідэалогіі, яны ўсё ж такі ёсць і таму патрабуюць новых прыхільнікаў. Для таго, відаць, і створаны ў інтэрнэце сайт кансерватыўнага цэнтра Nomos, што месціцца па адрасе **http://nomos.by.**

Выгляд сайта зусім непрыцягальны. Адзінае, на чым на долю секунды затрымліваецца позірк, гэта назва сайта, надрукаваная чорнымі літарамі на чырвоным фоне. Далей жа ідуць выключна тэксты з нешматлікімі фотаздымкамі. З правага боку і ўверсе месцяцца выйсці на рубрыкі сайта. Такое стаўленне да выяўлення ўказвае, што яго ўладальнікам пакуль залежыць прыцягнуць выключна ідэйных прыхільнікаў, для якіх знешняе не вельмі істотнае.

„Кансэрватыўны цэнтар Nomos быў заснаваны ўвосень 2011 г. маладымі навукоўцамі Беларусі (студэнтамі, магістрантамі, асьпірантамі, выпускнікамі, навуковымі супрацоўнікамі, маладымі выкладчыкамі) для стымуляваньня й падтрыманьня аўтэнтычнага беларускага сьветагляду, шляхам фармаваньня й розьвітку фундамэнтальных айчынных навуковых дасьледаваньняў", — кажуць сябры кансерватыўнага цэнтра ў самапрэзентацыі на старонцы „Аб Цэнтры", якія асноўнымі сваімі светапогляднымі прынцыпамі называюць працу, сям'ю і радзіму.

Сваёй місіяй яны абралі пераадоленне „светапогляднага каляпсу", які стварыўся ў Беларусі. „Кансэрватыўны цэнтар Nomos ставіць сабе за мэту на падставе інавацыйнага матар'ялу сусьветнае фундамэнтальнае навукі і аналізу асаблівасьцяў Беларусі распрацаваць сьветаглядныя падставы, рэлевантныя выклікам сучаснага глябальнага сьвету. Дадзеная мэта апынецца выканальнай толькі на падставе звароту да традыцыйных і кансэрватыўных каштоўнасьцяў беларускага народу", — гаворыцца на той жа старонцы.

Якім чынам прыхільнікі кансерватыўнай ідэалогіі дабіваюцца сваёй мэты, можна паглядзець у рубрыцы „Мерапрыемства". Праўда, пакуль там толькі адзін тэкст пра будучую прэзентацыю Цэнтра, што не надта многа для яго амаль двухгадовага існавання.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара

Слава пераможаным!

## 150 гадоў з часу тэрору ў паўстанне 1863 года

Лета 1863 года было па-сапраўднаму гарачым для насельнікаў беларускай зямлі. Паўстанне супраць расійскай акупацыі суправаджалася баямі, жорсткімі збройнымі сутычкамі і гібеллю сотак людзей. Акрамя тых, хто гінуў непасрэдна са зброяй у руках, шмат паўстанцаў, захопленых у палон, былі расстраляны ці павешаны. Пераслед паўстанцаў і тых, хто быў з імі звязаны, у чэрвені-ліпені 1863 года набыў татальны характар. Вось пералік толькі вядомых фактаў расправы і забойстваў, здзейсненых карнікамі ў гэтыя два месяцы вызвольнага чыну. Месцы пахавання многіх патрыётаў невядомыя, як невядомыя і імёны многіх іншых інсургентаў, што былі забіты царскімі карнікамі.

**2 чэрвеня.** У Менску расстраляны Міхал Цюндзявіцкі (нараджэнец Барысаўскага павета), вайсковец, удзельнік паўстання.

**3 чэрвеня.** У Вільні расстраляны Станіслаў Ішора, ксёндз з Жалудка (Шчучынскі раён). Зачытаў ён у касцёле маніфест паўстання і пайшоў капеланам у атрад Людвіка Нарбута. Калі карнікі арыштавалі пробашча касцёла, здаўся ў палон расейцам.

**5 чэрвеня.** Расстраляны Альберт Ласковіч, уладальнік маёнтка Кір'янаўцы (Лідскі раён).

**5 чэрвеня.** У Вільні за чытанне ў касцёле маніфесту паўстання расстраляны Раймонд Зямацкі, пробашч касцёла ў Ваверцы (Лідскі раён).

**9 чэрвеня.** У Вільні на Лукішскім пляцы павешаны Баляслаў Калышка (нараджэнец Лідскага павета), адзін з кіраўнікоў нацыянальна-вызвольнага паўстання.

**18 чэрвеня.** У Магілёве расстраляныя Уладзімір Корсак, Міхал і Ян Манцэвічы, удзельнікі паўстання. Там жа расстраляны Ільдафонс Анцыпа (нараджэнец вёскі Мілавань каля Гародні), публіцыст удзельнік паўстанняў 1830-1831, 1863 гг., палявы камандзір. У свой час вучыўся ў Слоніме.

**24 чэрвеня.** У Лідзе за чытанне маніфесту паўстання ў в. Ішчална (Шчучынскі раён) расстраляны ксёндз Адам Фалькоўскі. Вядома, што цэлая рота конных казакоў таптала месца, дзе было закапана цела святара. Прыблізна на гэтым месцы ў цяперашнім лідскім парку пастаўлены помнічак.

**26 чэрвеня.** Расійскімі карнікамі ў ваколіцах Навагрудка паводле асабістага загаду Міхаіла Мураўёва расстраляны Адам Пуслоўскі (нараджэнец Навагрудчыны), дзевятнаццацігадовы студэнт, які толькі адзін дзень удзельнічаў у паўстанні і быў узяты ў палон. Пахаваны ля вёскі Сенна (Навагрудскі раён), на магіле крыж.

**Чэрвень.** У Саколцы за распаўсюд „Мужыцкай праўды" расстраляны селянін Мацей Цюхна.

**6 ліпеня.** У Барысаве быў расстраляны Кастусь Жаброўскі (нараджэнец Аўгустоўскай губерні), паўстанцкі вайсковы камандзір Сенненскага павета.

**9 ліпеня.** У Вільні павешаны Зыгмунт Сераkоўскі (нараджэнец Валыньшчыны), вайсковец, адзін з кіраўнікоў вызвольнага паўстання.

**10 ліпеня.** У Ваўкавыску быў расстраляны Станіслаў Завістоўскі, адстаўны штабс-капітан, камандаваў паўстанцкім атрадам у Гародні.

**28 ліпеня.** У Рагачове быў расстраляны Тамаш Грыневіч (паходзіў з Быхаўскага раёна), удзельнік вызвольнага паўстання.

Вечная памяць і слава тым, хто загінуў за свабоду Айчыны!

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Хто задбае?..

У Кузаве, як і ў іншых вёсках, знаходзіцца некалькі незаселеных гаспадарак. У летні час у некаторыя прыязджаюць гаспадары ва „ўік-энды”, а іншыя застаюцца без дагляду, адно ўладальнікі ўносяць у гміну падаходны падатак ад маёмасці. Такая забудова знаходзіцца з пачатку вёскі ад чаромхаўскай станцыі. Няма тут агароджы, а замест яе прыдарожную вулічную паласу парастаюць густыя кусты. Брыдка выглядае. Пры тым апусцелая сядзіба знаходзіцца на павароце вуліцы. Карыстальніку аўтатранспартнага сродка, выязджаючаму ад станцыі, не відаць сустрэчнага аўтамабіля. Дарогу закрываюць кусты, якія пагражаюць дарожнай аварыяй. Хто прывядзе сядзібу ў належны парадак?

Войт калісьці на вясковым сходзе гаварыў, што такіх неахайных гаспадароў гміна будзе прыцягваць да адказнасці. Ці аб гэтым забыліся гмінныя чыноўнікі? А мо скажуце, шаноўныя кіраўнікі самаўрада, што справай павінна пацікавіцца Праўленне павятовых дарог у Гайнаўцы? Усё ж такі кузаўская вуліца лічыцца павятовай дарогай. Ці не так? Здзіўляе мяне факт, што на гэтую загану, прыжмурыўшы вока, глядзяць мясцовы солтыс і гмінная радная. Гэта ім кузаўцы, як абраннікам народу, даверылі прэзентаваць перад гмінай салэцтва і станоўча выконваць службовыя абавязкі.

**(ус)**



Фота Уладзіміра СІДАРУКА

Зарослая кустамі забудова на павароце пагражае дарожнай аварыяй

ОЛ'ЕН' ПО БОРУ ХОДІТ
IX ПУДЛ'АШСКО-ПОЛ'ЕСКІ ЖНІВНЫ СУСТРЕЧЫ 2013

13 ліпеня 2013 - Студзіводы, Пухлы, Соце
13 LIPCA 2013 - STUDZIWODY, PUCHŁY, SOCE

СТУДЗІВОДЫ
STUDZIWODY
12.00 Зажынкі на новых порубах (Зімова дорога)
ZAŻYNKI NA NOWYCH PORUBACH (ZIMOWA DROGA)

ПУХЛЫ ГМ. НАРВА
PUCHŁY GM. NAREW
15.00 Моліебен' перед чудотворною іконою
MOLEBIEN PRZED CUDOWNĄ IKONĄ

СОЦЕ ГМ. НАРВА
SOCE GM. NAREW
16.00 Зажынкі на полу, выступ у селіе
ZAŻYNKI NA POLU, WYSTĘP WE WSI

14 ліпеня 2013 - Паўловічы, гм. Мельнік
14 LIPCA 2013 - PAWŁOWICZE GM. MIELNIK

15.00 Зажынковы концерт
KONCERT ZAŻYNKOWY

# Новыя ўлады Раённага аддзела ПСП

27 чэрвеня гэтага года адбыўся справаздачна-выбарчы сход Раённага аддзела Польскага саюза пенсіянераў (РА ПСП) у Нараўцы (Гайнаўскі павет). Удзельнічалі ў ім м.інш. старшыня Акругowага аддзела ПСП у Беластоку Ян Каліноўскі, войт Нараўчанскай гміны Мікалай Павільч, радныя Нараўчанскай гміны Ян Драўноўскі, Юрый Равінскі і Галіна Вяжхоўская ды дырэктар мясцовага Гміннага асяродка культуры Анна Стульгіс.

Справаздачу з дзейнасці Раённага аддзела ПСП у Нараўцы за 2007-2013 гады зачытала старшыня праўлення РА Ядвіга Карпюк. Дзейнасць была ўсебаковая і багатая. Зроблена было 73 культурна-забаўляльныя мерапрыемствы (яны праходзілі ў прыемнай і сардэчнай атмасферы), дзевяць экскурсій ды шмат сустрэч з цікавымі людзьмі. Старэйшыя людзі, пераважна пад святы, атрымлівалі харчовыя прадукты. Арганізацыя павялічыла свае рады з 248 на 417 членаў! Члены ПСП спяваюць у двух мастацкіх калектывах: у „Нараўчанках” і ў „Цаглінках”, удзельнічалі ў конкурсах „Мікрафон для ўсіх” ды спецыяльных крыжаванках.

Працу нараўчанскага аддзела ПСП высока ацаніла рэвізійная камісія. Удзельнікі сходу адзначылі вялікую ангажаванасць членаў праўлення нараўчанскай арганізацыі ў галіне дапамогі старэйшым людзям. Пра такіх актыўных людзей, якія шчыра дапамагаюць іншым, так пісаў польскі паэт Адам Аснык: „Для сэрцаў шляхетных найбольшай раскошай, калі іншым радасць у нядолі прыносяць”.

Падзяку за актыўную дзейнасць у Праўленні РА ПСП атрымала 12 чалавек. Усім ім старшыня ўручыла прыгожыя дыпломы. Сярод іх — наш рэдакцыйны супрацоўнік Янка Целушэцкі, між іншым, за тое, што часта рабіў здымкі і шмат пісаў пра мерапрыемствы, якія арганізавалі пенсіянеры Нараўчанскай гміны, ды ніўскі карэспандэнт Мікалай Варанецкі. Была падзяка за фінансавую дапамогу войту гміны і дырэктару Кааператыўнага банка ў Нараўцы.

Ад імя Галоўнага праўлення ПСП у Варшаве старшыня ваяводскай пенсіянерскай арганізацыі Ян Каліноўскі ўручыў Ядвізе Карпюк з Нараўкі залаты ганаровы значок ПСП. Затым з мастацкай часткай выступіла група гімназістаў з нараўчанскага Комплексу школ.

Сход выбраў новае праўленне Раённага аддзела ПСП у Нараўцы: Ядвіга Карпюк (старшыня), Стэфанія Грыка (намеснік старшыні), Люцыня Зданоўская (сакратар), Аляксандра Конкель (скарбнік) і пяць членаў праўлення. Аляксандр Зданоўскі будзе старшынёй Сацыяльнай камісіі РА. Рэвізійную камісію ўзначаліў Юрый Кісялеўскі. Дэлегатам на ваяводскі з'езд ПСП у Беластоку выбралі Ядвігу Карпюк.

Нававыбранае праўленне Раённага аддзела ПСП у свой план дзейнасці ўпісала шчыльнае супрацоўніцтва з самаўрадавымі ўладамі ды няўрадавымі арганізацыямі, паездкі да гурткоў пенсіянераў у Пружаны і Гайнаўку ды ў тэатр і філармонію ў Беластоку, а таксама інтэрнэтныя і кулінарныя курсы.

**(яц)**

# Адгаданка

1. злучае хамут з аглоблямі, 2. чарцёж, апісанне ў агульных рысах, 3. паўночнаамерыканскі стэп, 4. сярэднеазіяцкі пясняр, 5. расліна са сцяблом у форме саломіны з коласам, мяцёлкай або кісцю, 6. якуцкі горад на Лене, 7. горад Нерона, 8. буйная цэнтральнаазіяцкая рагатая жывёла, 9. Міра, напісала „Жывінкі з глыбінкі”, 10. ілжывае абвінавачанне, 11. месца зімавання пералётных птушак, 12. вершнік, 13. Аляксей, гродзенскі пісьменнік родам са Страшава (1920-92).

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — пагаворка.

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | | | 2 | | | | | |
| | | | | | | | 3 | | |
| | | | 4 | 5 | | | 6 | | |
| | | 7 | | | 8 | | | | 9 |
| | 10 | | | 11 | 12 | | 13 | | |
| | | | | | | | | | |

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 23 нумара**

Вуаль, лаўра, музыка, пані, саўгас, цюк, чара.

Рашэнне: **Лаўры часам запускаюць карані ў галаву**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Лявону Федаруку** з Рыбал і **Мікалаю Сазановічу** з Навін-Вялікіх.

# 14.07 — 20.07

**(22.03. — 20.04.)** З 18.07. (да 22.07.) варта ў інтарэсах ставіць цвёрда на сваім; слухай парад зычлівых людзей. Калі не маеш пары, маеш шанцы яе знайсці; мала хто ўстаіць перад тваёй прыцягальнасцю і красой! Даведаешся таксама, хто ў сям'і сапраўды табе спрыяе, а хто хоча выкарыстаць. Раптоўныя перамены ў жыцці могуць закончыцца немалымі стратамі. Адкладзі вялікія пакупкі, не бярыся за сумнійныя мерапрыемствы.

**(21.04. — 21.05.)** 14-16.07. магчымыя завіраванні ў кар'еры (цяжкасці, нявветлівасць, нядалыя негацыяцыі). З 18 (да 22.07.) будзеш бачыць, але пагражаюць табе канфлікты, вынікі якіх будуць вельмі сур'ёзныя і працяглыя. Старая дружба можа перарасці ў каханне. У пятніцу памогуць табе людзі, ад якіх гэтага ты не спадзяваўся.

**(22.05. — 22.06.)** Перад табою вялікія шанцы, шкада было б іх праваронíць. Задбай аб свой пазваночнік, не валачы цяжкага. З 16 (да 22.07.) даведаешся, на чым табе найбольш залежыць у прафесіі і што трэба зрабіць, каб здзейсніць твае прафесійныя амбіцыі. Калі будзеш выходзіць з хаты, цяжка будуць зачыняцца дзверы, гэта будзе папярэджанне аб небяспецы для твайго жыцця (усё кончыцца добра). Будзь асцярожны на дарозе, адмоўся ад доўгіх падарожжаў і рызыкоўных мерапрыемстваў.

**(23.06. — 23.07.)** Будзе сіла і воля да дзейнасці. Ніхто цябе не верне з абранага шляху. Могуць абудзіцца ў табе правадырскія здольнасці. Схільнасць да неабдуманых выдаткаў, цікавыя прапановы працы. Тое, што табе здасца цяжкасцю ці перашкодай, на самой справе пасланае Небам як асярога.

**(24.07. — 23.08.)** Лепшая кандыцыя, але збірай сілы на апошні тыдзень. Нават калі будзеш адпачываць, турбаваць цябе будуць справы на працы. Чужы сабака лашчыцца — чакай прыемных навін. Тыдзень спрые рамантызму і каханню. Могуць цябе ахапіць раптоўныя пачуцці, жарснасць.

**(24.08. — 23.09.)** Варта задбаць аб саюзнікаў, бо без іх не ўдадуцца твае планы. Будзеш добрым арганізатарам, твае рашэнні будуць цвярозымі і трапнымі. Досыць спакойна ў фінансах, але не разлічвай на тое, што хтось хутка верне табе грошы. Адмоўся цяпер ад публічных выступленняў і гучных заявак. Справы вызначаныя на пятніцу пойдуць надзвычай удала.

**(24.09. — 23.10.)** Можа цябе турбаваць нетрывааласць у твaёй пары (19.07. усё пачне вяртацца да нормы. Паправіцца і здароўе). Спрыяе табе цяпер вада, старайся праводзіць час над ёю. З грашыма лепшы «верабей у далоні», але будзь цярплівы. Хтосьці спрабуе выкарыстаць цябе для сваёй мэты, што зашкодзіць не так табе, як тваім блізкім (калегам, радні, сваякам).

**(24.10. — 22.11.)** Табе здасца, што забыўся і не знаходзіш адказаў на пытанні, ды на самой справе перабольшваеш праблемы. Можа хопіць пераставіць твой ложак у іншае месца? Усё вырашыцца само па сабе. У панядзелак твая нерашучасць можа затармазіць твой поспех. Калі ў сераду ўбачыць у сваім доме разам двух павукоў, гэта прадвяшчае нечаканы поспех. У пятніцу будзь рашучым і засяроджаным. 18-19.07. засноўвай сваю фірму або пачынай супрацоўніцтва.

**(23.11. — 22.12.)** 16-20.07. не будзеш наракаць на недахоп грошай; поспехі ў негацыяцыях, добры час на падпісванне дамоў. Але купляй абдумана. 15-19.07. можа паявіцца шанц на наладжанне карыснага дагавору або прапанова супрацоўніцтва, дзякуючы якой ужо неўзабаве падмацуеш свой бюджэт. Вельмі ўдалая прафесійная пятніца.

**(23.12. — 20.01.)** Марс унясе ў тваю пару шмат нервазнасці, пагражае крызіс або нават землятрус. Перапрываеш — чакае вас ідылія. 15-19.07. адважна здзяйсняй свае мары; прадбачваецца немалы прыліў у касу. Божая кароўка, паўзучая па тваёй правай руцэ, прынясе табе шчасце і грошы; па левай — параву здароўя, сядзе на твар — будзе шчаслівае каханне.

**(21.01. — 19.02.)** У кар'еры трэба будзе адкласці чаканне павышэння, або змяніць падыход да дзеянняў. У фірме маеш братнюю душу, якая падмацуе цябе пры завіраваннях. У выпадку канфліктаў не ўпірайся на сваім, калі нават маеш рацыю; шанц на тое, што з шэфам паладзіш справы, з-за якой табе не спіцца.

**(20.02. — 21.03.)** Цікавыя задумы, энергія для іх рэалізацыі. Будзеш мець магчымасці даць сабе рады ў кожнай сітуацыі. Проста засыплюць цябе цікавымі прапановамі. З 18 (да 22.07.) будзеш адважна вырашаць; рызыкоўныя прыёмы могуць прынесці знакамітыя вынікі!

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$. Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy” w 2013 roku — 52.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 000 egz.

# Непублічнай школе ў Арэшкаве - 2 гады

Ужо два гады дзейнічае Непублічная падставовая школа ў Арэшкаве. Дзеткі і бацькі, з якімі я спаткаўся на ўрачыстасці заканчэння школьнага года, былі рады працы школы, распаложанай непадалёк ад іх месца жыхарства, і называлі яе козыры. У невялікіх па колькасці дзетак класах настаўнікі могуць амаль індывідуальна працаваць з вучнямі і наладзіць шчыльнае супрацоўніцтва з бацькамі. Часта прыходзяць яны ў школу, карыстаючыся рознымі нагодамі, прымаюць удзел у школьных урачыстасцях і адкрытых сямейных пікніках, а таксама дапамагаюць у бягучых рамонтах. Калі былі падведзены вынікі экзаменаў шасцікласнікаў, аказалася, што Непублічная падставовая школа ў Арэшкаве заняла высокае пятае месца на агульны лік 14 школ у Гайнаўскім павеце (самай лепшай школай аказалася таксама невялікая Падставовая школа ў Новым Корніне Гайнаўскай гміны). Дырэктар школы ў Арэшкаве Яраслаў Гарбоўскі, развітваючыся 28 чэрвеня з вучнямі і бацькамі, падвёў вынікі працы школы, звярнуў увагу на высокі ўзровень навучання, зацікаўленні вучняў мастацтвам, музыкай і на добрае супрацоўніцтва школы з бацькамі.

## Віншаванні, падзякі і цёплыя словы

У апошні дзень навучальнага года вучні разам з родзічамі і настаўнікамі прыбылі ў царкву ў Арэшкаве на малебен, каб падзякаваць Богу за паспяховае завяршэнне вучобы і папрасіць дапамогі на будучыню. Пасля ўсе перайшлі ў спартыўную залу распаложанага непадалёк ад храма школьнага будынка. Дзеткі прыйшлі развітацца са школай прыгожа апранутыя, з кветкамі ў руках. Мамы з захапленнем глядзелі на сваіх дзяцей, калі тыя, побач школьных пасведчанняў, атрымлівалі ўзнагароды. Вучні ахвотна прымалі ўдзел у дэкламатарскіх, мастацкіх і музычных конкурсах. Дырэктар Яраслаў Гарбоўскі не забыў вылучыць усіх актыўных дзетак. Самыя лепшыя вучні і іх бацькі атрымалі з рук дырэктара ганаровыя граматы. У такой невялікай школе, як арэшкаўская, вельмі важным з'яўляецца стварэнне цёплай атмасферы, якая будзе садзейнічаць развіццю школы ў будучыні. Лепшыя вучні атрымалі пасведчанні з чырвонай палоскай. Самай лепшай вучаніцай аказалася Магдалена Мішчук, у якой сярэдняя ацэнак атрымалася на ўзроўні 5,2. Дэкламатарскія здольнасці Магдалена Мішчук праявіла на цэнтральных эліміняцыях сёлетняга дэкламатарскага конкурсу «Роднае слова», дзе яна заняла трэцяе месца. У час развітальнай мастацкай часткі ў Арэшкаве Магдалена таксама паказала свае дэкламатарскія і акцёрскія здольнасці.

— Я дэкламую па-беларуску ад прадшколля, штогод прымаю ўдзел у конкурсе «Роднае слова». Люблю таксама выступаць у тэатральных пастаноўках. Нашая школа невялікая і таму тут вельмі прыемная атмасфера і добрыя суадносіны паміж вучнямі і настаўнікамі, — сказала Магдалена Мішчук.

Пасля афіцыйнай часткі ўрачыстасці дзеткі, пачынаючы з наймалодшых, дэкламавалі вершыкі і спявалі песні. Старэйшыя вучні запрэзентаваліся з невялічкімі пастаноўкамі, выступіў школьны вакальны калектыў «Вясёлыя ноткі», а на завяршэнне мастацкай часткі вучні разам з настаўніцай беларускай мовы Аннай Франкоўскай паказалі сцэнку да беларускай песні.

— У нашым калектыве «Вясёлыя ноткі» многа песень з рэпертуару вакальнага калектыву «Журавінка» (дзейнічаў у бельскай «тройцы» — А. М.), — патлумачыла настаўніца Марта Вэршка, апякунка нядаўна заснаванага музычнага гурту.

Арэшкаўскі гурт, нягледзячы на кароткі час дзейнасці, на раённых эліміняцыях конкурсу «Беларуская песня» заняў трэцяе месца. Такое ж месца заняў на Міжнародным фестывалі «Ноты сяброўства», які нядаўна арганізаваў Гайнаўскі дом культуры.

Прысутныя на школьнай урачыстасці настаяцель Арэшкаўскага прыхода протаіерэй Лявон Анхім і ксёндз Міхал Кісель з Гайнаўкі пахвалілі настаўнікаў і вучняў за стварэнне ў школе сямейнай атмасферы.

— Нашы вучні выступаюць з беларускім рэпертуарам у час школьных мерапрыемстваў і прымаюць удзел у беларускіх конкурсах. Асаблівае месца ў нашай школе займае праца з «Нівай». Нашыя вучні былі вельмі рады ад паездкі ў рэдакцыю тыднёвіка «Ніва». Там Ганна Кандрацюк цікава расказвала пра «Зорку». Мы ў школе наладзілі таксама «Вечар з беларускім фільмам», на які запрасілі жыхароў Арэшкава і наваколля, — сказала настаўніца беларускай мовы Анна Франкоўская.

Настаўніцы беларускай мовы Анна Франкоўская і Ірэна Герасімюк назвалі прозвішчы вучняў, якія вылучыліся ў беларускіх конкурсах: Каміля Навіцкая, Малгажата Галёнка, Марыюш Краська і, канешне, Магдалена Мішчук.

— Поўнасцю па-беларуску мы падрыхтавалі «Куццю». Трэба было вялікай ангажаванасці вучняў, каб падрыхтаваць такое вялікае мерапрыемства. Працуючы з «Нівай», нашы дзеткі любяць знаходзіць адказы на загадкі і вельмі ахвотна высылаюць у рэдакцыю рашэнні крыжаванак, — сказала настаўніца Ірэна Герасімюк.

У школе ёсць «Беларуская хатка» з вялікай колькасцю цікавых экспанатаў, абсталяваная яшчэ ў мінулым на прынцыпах музейчыка. У зале беларускай мовы знаходзіцца беларускі куточак з беларускімі кніжкамі і экспанатамі, прынесенымі з «Беларускай хаткі», а таксама насценгазеты з беларускімі тэмамі — «Беларускія сімвалы», «Беларуская кухня».

— З перспектывы двух гадоў працы школы я лічу, што апраўдалася ідэя арганізаваць Непублічную школу ў Арэшкаве. Настаўнікі маюць магчымасць працаваць з вучнямі амаль індывідуальна, а добрая атмасфера паміж вучнямі, настаўнікамі і бацькамі спрыяе пазаўрочнай актыўнасці. У школе ладзяцца мерапрыемствы, рэалізуюцца праекты, а школа выходзіць з прапановамі да мясцовай грамадскасці. Так было ў час нядаўна арганізаванага сямейнага пікніка, — сказала маці Наталля Суліма.

## Мяняецца апякун школы ў Арэшкаве

Дагэтуль Непублічную падставовую школу ў Арэшкаве вёў Фонд успамагання адукацыі, інтэграцыі і тэрапіі асоб з абмежаваннямі «Кая» з Гайнаўкі. З верасня гэтага года школай мае апекавацца Грамадска-асветнае аб'яднанне дапамогі пакрыўджаным і інвалідам «Адукатар» з Ломжы, якое вядзе многа непублічных школ. Бацькі і настаўнікі баяцца, ці «Адукатар» паспее да канца канікул аформіць усе справы і ці далейшая дзейнасць школы не апынецца пад пагрозай. Аднак гмінны радны з Пасечнік Уладзімір Галёнка супакойвае, што ўсё ідзе да добрага.

— Рада Гайнаўскай гміны дала паўнамоцтвы войт Вользе Рыгаровіч, каб тая вырашыла на якіх умовах школьны будынак у Арэшкаве будзе мог быць перададзены ў карыстанне аб'яднанню «Адукатар». Мы, бацькі, разлічваем, што «Адукатар» будзе мог бясплатна карыстацца школьным будынкам, так як рабіў дагэтуль гайнаўскі фонд «Кая». Аднак каб мог памяняцца вядучы школы, ужо ў верасні мінулага года аб'яднанне «Адукатар» падало ў гмінную ўправу адпаведныя дакументы. Гэта было патрэбнае, каб не спынялася асветная субвенцыя з дзяржаўнага бюджэту, якую мы атрымліваем праз пасрэдніцтва гміннай управы ў Гайнаўцы. Разлічваем, што рэгістрацыя новага вядучага школы адбудзецца ў адпаведным часе і з верасня нашыя дзеткі надалей будуць вучыцца ў Арэшкаве, — сказаў радны Уладзімір Галёнка. — Зараз, калі многа спраў можна вырашаць з дапамогай інтэрнэту, распалажэнне аб'яднання «Адукатар» у Ломжы не з'яўляецца перашкодай, каб весці школу ў Арэшкаве. Яно вядзе ж школы нават далёка па-за нашым ваяводствам, апякуецца, мабыць, звыш сарака школамі.

Дырэктар школы Яраслаў Гарбоўскі ўдакладніў, што ў школе займаліся 16 вучняў і каля 10 дашкольнікаў.

— Мы робім ашчаднасці і стараемся добра перадумаць, покі рашымся нешта купіць. Разлічвалі мы, што ў нашай школе колькасць вучняў пабольшае і 20 дзетак было б аптымальнай колькасцю для дзейнасці школы ў такой формуле, як цяперашняя. Хаця ў наступным школьным годзе можам ізноў разлічваць на 16 вучняў, хіба што дойдуць нейкія прыезджыя, то я гатовы працаваць у школе надалей, — сказаў дырэктар Яраслаў Гарбоўскі.

— У нас месячная асветная субвенцыя на адно дзіця складае каля 1400 злотых і з'яўляецца большай па прычыне выкладання ў школе беларускай мовы, якой вучацца ўсе вучні. Дзеткі знаёмяцца таксама з нашымі традыцыямі, беларускай культурай і нашай гісторыяй, а беларуская мова і беларускія песні гучаць таксама ў час школьных і адкрытых для мясцовага насельніцтва мерапрыемстваў, — пералічыў козыры школы гмінны радны Уладзімір Галёнка.

Магдалена Мішчук (спераду) і школьны калектыў «Вясёлыя ноткі»

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

ISSN 0546-1960